PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 51 (2171) Год XLII Беласток 21 снежня 1997 г. Цана 1 зл.



*Набліжаюцца зімнія канікулы.* Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

# Усебеларускі кангрэс 1917 года

Яўген МІРАНОВІЧ

**Мінае акурат васьмідзесятая гадавіна з часу, калі прадстаўнікі беларускага народа вырашылі ўступіць на шлях незалежнасці сваёй краіны. Гісторыя тады, так як і на пачатку дзевяностых гадоў, ласкава абдароўвала ўсходнееўрапейскія народы свабодай. Патрабавала яна аднак ад іх рашучай волі прыняць гэты падарунак. Беларусы заўважылі шанц, які ствярала палітычная сітуацыя ў Расіі і Еўропе пры канцы першай сусветнай вайны, ды паспрабавалі будаваць сваю дзяржаўнасць.**

Падчас першай сусветнай вайны Беларусь амаль два гады была падзелена лініяй фронту. На тэрыторыі акупаванай нямецкай арміяй пачалі ўзнікаць беларускія школы, асветныя, культурныя і грамадскія арганізацыі. Эліта пачынала кантактавацца з людам на беларускай мове і пры дапамозе пісанага слова. Адначасова, на ўсходнім баку фронту, пачыналі ўзнікаць партыі, якія ў сваіх праграмах імкнуліся акрэсліць палітычную будучыню Беларусі. Найбольш уплывовая арганізацыя — Беларуская сацыялістычная грамада — мела свае структуры ў вялікіх гарадах Беларусі, а таксама сотні прыхільнікаў сярод афіцэраў царскай арміі. Іншыя партыі, як Саюз беларускай дэмакратыі ў Гомелі, Беларускі нацыянальны камітэт у Магілёве, Саюз беларускага народа ў Віцебску, Беларускі народны камітэт у Оршы, Хрысціянска-дэмакратычнае аб'яднанне ў Мінску, хаця з прычыны недаразвітасці арганізацыйных структур мелі лакальны характар, аднак іх дзеячы думалі агульнанацыянальнымі катэгорыямі.

Аднак да часу бальшавіцкага перавароту ў кастрычніку 1917 года ніводная беларуская арганізацыя выразна не выказала волі цалкавіта адлучыцца ад Расіі і стварыць сваю незалежную дзяржаўнасць. У красавіку і ліпені 1917 года адбыліся ў Мінску два з'езды лідэраў беларускіх арганізацый. Першы, які называўся Беларускім нацыянальным з'ездам і здамінаваны быў інтэлігенцкімі і памешчыцкімі палітыкамі, вырашыў прасіць расейскі Часовы ўрад згоду на аўтаномію Беларусі. Беларускі заклік рускімі дэмакратамі быў цалкам праігнараваны. Другі, ліпеньскі, З'езд беларускіх партый і арганізацый, здамінаваны сацыялістамі, пад уплывам агульных настрояў займаўся перш за ўсё сацыяльнымі праблемамі беларускага сялянства. Стварыў ён, аднак, каардынацыйны асяродак беларускага палітычнага руху ў выглядзе Цэнтральнай рады беларускіх партый і арганізацый.

Сярод беларускіх дзеячаў і палітыкаў тае эпохі існавала даволі моцнае перакананне, што Расія, як дэмакратычная, федэратыўная дзяржава, па прынцыпах свайго новага палітычнага парадку дазволіць таксама Беларусі прынамсі на культурную аўтаномію. Бальшавіцкі пераварот стварыў цалкам новую сітуацыю на Беларусі. Беларускія палітыкі былі зусім непадрыхтаваныя да такога ходу падзей. Новую ўладу ўстанавілі камісары дэмаралізаванай расейскай арміі, людзі зусім чужыя — Міхаіл Фрунзе, Карл Ландэр, Вільгельм Кнорын, Аляксандр Мяснікоў. Хаця ўзніклая ў палове лістапада Цэнтральная беларуская вайсковая рада пачынала ствараць свае вайсковыя фарміраванні, мілітарная канфрантацыя з Чырвонай Арміяй не разглядалася нават тэарэтычна як форма вырашэння палітычных праблем на Беларусі. Бальшавікі таксама адчувалі сябе няўпэўнена на беларускай зямлі ды імкнуліся палітычнымі метадамі забяспечыць сваё тут пануванне. Склікалі яны з'езд Беларускага абласнога камітэта пры Расейскім Савеце сялянскіх дэпутатаў, прапагандавалі сацыяльныя лозунгі з праграм беларускіх сацыялістычных партый, адначасова рашуча змагаліся з усімі тэндэнцыямі, якія замацоўвалі беларускі нацыянальны рух.

Беларускія палітыкі не мелі выразна акрэсленай канцэпцыі наконт будучыні Бацькаўшчыны. Вырашылі тады адклікацца — згодна з логікай эпохі — да волі народа. Беларуская рада, Цэнтральная беларуская вайсковая рада і Беларуская сацыялістычная грамада выпусцілі зварот да „ўсяго беларускага народу” і склікалі Усебеларускі з'езд на 5 снежня 1917 года. Перадз'ездаўская адозва да народа, якую выдалі вышэйзгаданыя арганізацыі, не пакідала сумненняў, што ініцыятары выбралі курс на незалежнасць. Гаварылася там, што ўлада на Беларусі можа быць устаноўлена толькі самім беларускім народам, што ўлада тая павінна пачаць сваю працу ад фарміравання беларускай арміі.

Першы нацыянальны сход адбыўся 8 снежня 1917 года. У Мінск прыехала 1872 дэпутатаў ад паасобных партый, гарадоў, земстваў, бежанскіх камітэтаў, кааператываў, прафесійных арганізацый. Шэсць дзён працягваліся размовы наконт парадку правядзення Кангрэса. Бальшавікі прабавалі спачатку перанясць кантроль над яго працамі, а пасля раз'яднаць дэпутатаў. Кожнага дня пашыралася

[працяг ☞ 4]

# У нумары

# Мы прачыталі

*Беларусы адносяцца да той жменькі еўрапейскіх народаў, якім па самых розных прычынах не ўдалося да канца прайсці стадыю нацыяналізму. Здавалася б толькі радавацца трэба, што не давялося яго перажыць. Але радасць адразу зьнікае, як падумаеш, што мы на працягу стагоддзяў засталіся без уласнай дзяржавы, былі пазбаўлены магчымасці выкарыстоўваць сваю родную мову ў грамадскім жыцці і вучыць дзетак на ёй.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 46*

* * *

*Тэрор і тэрарызм, як правіла, левыя па сваёй сутнасці. Стыхія левых — хаос, нестабільнасць, напружанасць. Падмена агульначалавечых каштоўнасцяў рознымі прывабнымі для маргінальных слаёў тэорыямі — ці то раю на зямлі, ці то ўсеагульнай роўнасці, ці расавай выключнасці. Тэрор заўжды пачынаецца з хлусні і правакацыі і грунтуецца на самых нізкіх якасцях натоўпу. У Беларусі ў 1994 г. адбылася рэвалюцыя. Уладу пераянялі крайне левыя са сваім лідэрам, якія традыцыйна пераянялі кантроль над сродкамі масавай інфармацыі і гаспадаркай. Амаль афіцыйна ў краіне існуюць два бюджэты, а чыноўніцтва так зраслося з мафіяй, што палітыка пачала дзейнічаць паводле мафіёзных законаў.*

*Наша ніва, н-р 33*

* * *

*Тракторный завод хотят взорвать,* — заяўляе прэзідэнцкая штодзёнка

*Народная газета, н-р 240*

Ворагі праклятыя! Цяпер іх робіцца амаль столькі ж, колькі ў 1938 годзе! Але на шчасце ёсць каму бараніць народ ад гэтых злачынцаў.

* * *

*Як паведаміў намеснік дырэктара стадыёна „Дынама" Валерый Ільін тэрарысты хацелі ўзарваць спартыўны аб'ект, дзе цяпер месціцца гандлёвы рынак,* — інфармуе

*Звязда, н-р 213*

А такая спакойная краіна была гэтая Беларусь.

* * *

*Przewodniczący BTSK Syczewski nie kieruje swego zainteresowania ku szeregowym członkom Towarzystwa, a ku kręgom rządzącym. Najlepszym tego przykładem było jego wystąpienie na festiwalu piosenki białoruskiej. Na kolanach witał wszelkie władze, zupełnie zapominając o zgromadzonych na sali weteranach ruchu białoruskiego. Nie podoba mi się brak jawności finansowej w organizacji. Nie mogę się dowiedzieć ile BTSK otrzymywało dotacji, ile wydawało, ile zostawało, ile zarabiają przewodniczący i sekretarz Zarządu Głównego. Dlaczego trzyma się to w tajemnicy?* — сказаў былы ганаровы старшыня БГКТ прафесар Аляксандр Баршчэўскі.

*Kurier Poranny, nr 280*

* * *

*Między Brześciem a Terespolem kursuje pociąg przez miejscowych zwany „wahadłem". To najkrótsze międzynarodowe połączenie. Obie stacje dzieli zaledwie kilka kilometrów. W każdym pociągu mieści się siedemset osób, a w dni targowe i dziewięćset wejdzie. Pasażerowie wahadła w przytłaczającej większości trudnią się przemytem spirytusu. Niektórzy w ciągu dnia przekraczają granicę czterokrotnie. Wożą do Polski spirytus polskiej produkcji, który wcześniej został wyekspediowany na Białoruś. Pasażerowie z reguły mają obfite kształty. Pod ubraniem kryją się zazwyczaj litry spirytusu w plastikowych woreczkach. Większe możliwości przemytu, ze względów anatomicznych, mają kobiety. Rekord należy do pewnej Białorusinki, która ukryła w ubraniu aż 30 litrów.*

*Polityka, nr 47*

Дазвольце дзейнічаць беларусам, а стануць багацейшымі за швейцарцаў.

* * *

*W każdej ambasadzie jedną trzecią składu stanowią pracownicy wywiadu. Nie są to „szpiedzy" w sensie klasycznym. Zajmują się „białym wywiadem". Czytają gazety, słuchają radia, chodzą na przyjęcia, rozmawiają z politykami. Natomiast prawdziwy szpieg rosyjski nazywa się zazwyczaj Svenson lub Smith, przyjeżdża z Zachodu jako szanowany businessman, nigdy nie kontaktuje się z pracownikami ambasady ani Rosjanami. Ale takich szpiegów polski kontrwywiad nigdy jeszcze nie zdemaskował.*

*Najwyższy Czas, nr 47*

* * *

*U nas kursy przedmałżeńskie prowadzą stare panny, które za to świetnie znają encykliki,* — сказаў ксёндз Енджэеўскі.

*Kurier Poranny, nr 275*

* * *

*Metropolita białostocki arcybiskup Stanisław Szymecki wyznaczył na wojewodę Bogusława Dębskiego z Prawicy Polskiej. To już przechodzi wszelkie granice — stwierdzają nawet politycy „Jedności". Jesteśmy katolikami, szanujemy władzę duchową naszego Kościoła, jednak nigdy nie rościliśmy pretensji, żeby obsadzać stanowiska kościelne.*

*Kurier Poranny, nr 277*

# З мінулага тыдня

**„Руслан"** — ваенна-транспартны самалёт Ан-124, урэзаўся ў жылы масіў на адлегласці паўтара кіламетра ад аэрапорта Іркуцк-2. У развалінах чатырохпаверховага дома выратавальныя службы знайшлі целы 66 ахвяр.

**Прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі** прызнаўся журналістам, што атрымаў ад міністра замежных спраў **Браніслава Герэмка** пісьмо з прапановай адклікаць **Эву Спыхальску** з пасады пасла ў Менску. У гэтым пісьме сцвярджаецца, што спадарыня пасол не спраўляецца з абавязкамі кіраўніка дыпламатычнага прадстаўніцтва і свае кантакты абмяжоўвае амаль выключна да паслушных прэзідэнту **Аляксандру Лукашэнку** палітыкаў. „Эва Спыхальска знаходзіцца ў Менску і стараецца рабіць усё тое, што магчымае, а гэта адно з самых цяжкіх прадстаўніцтваў. Пакуль акалічнасці гэтай прапановы не будуць высветлены, у мяне не будзе жадання прыняць такое рашэнне", — сказаў прэзідэнт Рэчы Паспалітай.

**Ваяводскі суд** у Беластоку прыгаварыў былога прэм'ер-міністра **Уладзімежа Цімашэвіча** прынесці праз пасрэдніцтва мясцовых сродкаў масавай інфармацыі прабачэнне ўправе горада Беластока і заплаціць на карысць Польскага чырвонага крыжа 10 тысяч зл. Цімашэвіч абвінаваціў беластоцкую ўправу ў фальшаванні жараб'ёўкі ўдзельнікаў выбарчых камісій перад канстытуцыйным рэферэндумам.

**Падставовая школа ў Вераб'ях** Гарадоцкай гміны атрымала ва ўзнагароду 12 тысяч зл. за распаўсюджванне экалагічнай адукацыі сярод вучняў у рамках агульнапольскага конкурсу па добраўпарадкаванні адходаў у сельскай тэрыторыі. Дзеці з Вераб'ёў, Зубкаў, Баброўнікаў і Лужаноў садзяць і прыбіраюць лес, абочыны шашы, збіраюць пластмасавыя бутэлькі, алюмініевыя банкі, прапагандуюць здаровыя харчы. Узнагароду Нацыянальнага фонду аховы асяроддзя прыняла дырэктар школы **Галіна Гапунік** разам з войтам Гарадоцкай гміны **Яўгенам Семенюком** на кірмашы POLECO '97 у Познані.

**Беластоцкае тэлебачанне**, пачынаючы з 21 снежня г.г., пачынае трансляваць свае перадачы па 35 канале, а эфірны час будзе павялічаны да 12 гадзін у суткі. Мясцовыя навіны будуць перадавацца чатыры разы ў дзень, узрасце таксама лік уласных праграм, падрыхтаваных беластоцкімі журналістамі.

**Цыганскі штомесячнік „Rrom p-o drom"**, які ўжо сем гадоў выходзіць у Беластоку, атрымаў узнагароду мадрыдскага часопіса „Actualidad" за арыгінальныя публікацыі міжнароднага маштабу. Штомесячнік выдаецца за кошт датацыі Міністэрства культуры і мастацтва. Галоўны рэдактар **Станіслаў Станкевіч** заявіў, што неўзабаве часопіс будзе даступны ў сеці Інтэрнет.

**У Белавежы** ў выніку выбуху катла цэнтральнага ацяплення ў будынку Пагранічнай аховы ранені атрымаў 60-гадовы качагар. Прычынай выбуху была шахцёрская ўзрыўчатка, якая знаходзілася ў вугалі.

**Чатырох грамадзян Беларусі** збілі і аграбілі ў мясцовасці Голны-Маера, што ў гміне Сэйны, 36-гадовага расіяніна. Злачынцы, забраўшы 2 400 дол. ЗША, ахвяру прывязалі да дрэва ў лесе. Неўзабаве паліцыя затрымала двух бандытаў на машыне „БМВ" у Сувалках, а астатнія двое былі злоўлены ў Кузніцы-Беластоцкай, калі спрабавалі вярнуцца на радзіму.



# Весткі з Беларусі

**Лібералізацыя валютнага абмену**

Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь дазволіў з 2 снежня 1997 г. банкам і дылінгавым кампаніям устанаўліваць курс куплі і продажу валюты самастойна, у залежнасці ад попыту і прапановы. Ужо 2 снежня абменныя пункты камерцыйных банкаў куплялі долары па 35 тыс. руб., а прадавалі па 38 тысяч (столькі ж яны і каштавалі на існаваўшым да гэтуль чорным рынку). Лібералізацыя ў адно імгненне здзейсніла тое, чаго на працягу дзевяці месяцаў не здолеў дасягнуць прыняты на пачатку гэтага года валютны ўказ прэзідэнта, які прадпісваў праваахоўным органам жорсткае змаганне з валютчыкамі.

**Дыялог з СЕ**

Беларусь выступае за прадаўжэнне дыялогу з Еўрапейскім Саюзам без якіх-небудзь папярэдніх умоў і палітычнага націску, — аб гэтам на сустрэчы з віцэ-прэзідэнтам Швейцарыі, начальнікам Дэпартамента замежных спраў СЕ Флавіё Коці заявіў міністр замежных спраў Беларусі Іван Антановіч, які знаходзіўся з візітам у Берне. Кіраўнік беларускага МЗС паінфармаваў швейцарскага дыпламата аб сітуацыі і рэформах у Беларусі. Абодва бакі абмеркавалі таксама перспектывы ўступлення Беларусі ў Савет Еўропы.

**Галадоўка ў метро**

Аб'яднаная грамадзянская партыя выказала салідарнасць з удзельнікамі галадоўкі — работнікамі менскага метрапалітэна. АГП канстатуе, што дыскрымінацыя свабодных прафсаюзаў з'яўляецца незаконнай, паколькі ў адпаведнасці з канстытуцыяй усе прафсаюзы карыстаюцца аднолькавымі правамі. „Да таго ж, — гаворыцца ў заяве, — члены саюза, якія абвясцілі галадоўку, не патрабуюць павелічэння заробку, а толькі патрабуюць ад адміністрацыі выканання калектыўнай дамовы і хочуць удзельнічаць у працы па заключэнні новай".

**Матчын зварот**

Маці Вадзіма Лабковіча, які ўжо чацвёрты месяц знаходзіцца ў следчым ізалятары па абвінавачанні ў напісанні палітычных лозунгаў, звярнулася з адкрытым лістом да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. „Прэзідэнт маёй дзяржавы таксама рос без бацькі і ці не яму зразумець, што адчувае шаснаццацігадовы хлопец", — піша Ядвіга Лабковіч, якой даводзіцца адной гадаваць двух сыноў. У лісце яна патрабуе забяспечыць для свайго сына магчымасць працягваць вучобу і паклясці канец расследаванню ягонай справы.

**Кубінскі заказ**

Першы заказ пасля сямігадовага перапынку паступіў з Кубы на Магілёўскі аўтамабільны завод. Кубінцы просяць вырабіць і паставіць некалькі тысяч дэталяў і вузлоў да аўтаскрэпераў магілёўскай маркі. Прадстаўнікі завода нядаўна пабывалі ў гэтай краіне і ўбачылі машыны з апошняй пастаўкі ў добрым рабочым стане, але асобныя вузлы і дэталі маюць патрэбу ў замене, таму кубінцы і зрабілі заяўку на запчасткі на 300 тысяч долараў.

**Сельскагаспадарчая адукацыя**

Міжнародныя навуковыя чытанні, прысвечаныя вышэйшай сельскагаспадарчай адукацыі ў наступным стагоддзі ва ўмовах рыначных адносін праходзілі ў Беларускай сельгасакадэміі. Удзел у іх прымалі вучоныя з Расеі на чале з прэзідэнтам Расейскай акадэміі аграрнай адукацыі акадэмікам Аляксеем Бяловым, са Шчэцінскай сельгасакадэміі Польшчы, а таксама з айчынных навучальных устаноў і навуковых цэнтраў.

**Максімава вечарына**

Літаратурны музей імя Максіма Багдановіча і Саюз беларускіх пісьменнікаў ладзілі вечарыну пад назваю „Мне доўгае расстанне з вамі", прымеркаваную да дня нараджэння паэта. У Доме літаратара выступілі пісьменнікі Данута Бічэль-Загнетава, Алесь Разанаў, Алесь Бяляцкі і вядучы мерапрыемства Эдуард Акулін.

**Сябры дзяцей**

А поні — таксама коні, — вырашылі ў саўгасе Заказельскі Драгічынскага раёна і купілі сімпатычную парачку гэтых жывёлін. У навасёлаў роля асаблівая: быць сябрамі дзятвы садка-ясляў і малодшых класаў сярэдняй школы. Па іх просьбе, менавіта, саўгас зрабіў такую пакупку.

# Варкута

**Больш за пяцьдзесят гадоў мінула ўжо ад вайны, аднак яна і яе выследкі ўсё яшчэ захоўваюць свой жах у памяці людзей. Вось і чалавек, які расказаў мне крыху са свае журботнае біяграфіі, прасіў не выяўляць свайго прозвішча. Каб ужо хаця на старасць ніхто яго не непакоіў...**

Было ўжо гэта пасля таго, як Райск спалілі. У нас хадзілі марадзёры, якія грабяжом займаліся, дык мы іх злавілі. А пасля вайны, яшчэ летам, у жніўні, забралі ўжо за тое мяне. Проста ў Сталінагорск, 180 кіламетраў ад Масквы завезлі. Трымалі там год, пасля ў Маскве тры месяцы, чарговыя тры месяцы ў Горкім і ўрэшце завезлі ў Варкуту. Спярша, год, працаваў я на будове — стаўляў першы там мураваны дом — радзільны. Гэта для ўкраінак, бо ім, з Украіны, па дваццаць гадоў далі, а мужчынам расстрэл таксама памянялі на 15-20 гадоў. Пасля працаваў я ў шахце, 6 гадоў, а пасля наверсе — усяго ад аршыту пакутаваў я дванаццаць з паловаю гадоў.

Клімат там паскудны быў: мароз да шасцідзесяці градусаў даходзіў, тры месяцы сонца не заходзіла і тры месяцы не ўзыходзіла. Гаварылася: *Воркута, Воркута/ Странная планета/ Двенадцать месяцев зима/ Остальное — лето*. Там, на вечнай мерзлаце, амаль нічога не расло; толькі летам зямля на дваццаць сантыметраў адтавала. Сапраўднае, такое як у нас, лета там доўжылася 12 дзён, тэмпература тады нават да трыццаці градусаў падымалася. Тады, як зямля размярзала, трава расла: праз тры месяцы ўспела нарасці, зацвісці і перарасаваць — за ноч па пяць сантыметраў расла! І людзі пазней тую траву ўбіралі, і кароў трымалі, нават прыватна. Там нават муку на корм для тых кароў давалі, каб малако дзецям было. У нашага гаспадара была карова, якая па дваццаць літраў малака давала!

Нас кармілі па-рознаму: турэмшчыкам быў першы кацёл — толькі па 600 грамаў хлеба, а хто лепшы быў, мой меў чацвёрты — 800 грамаў хлеба — або пяты кацёл: цэлы кілаграм у суткі. Пасля, як крыху пазнаёміўся на кухні, то і міску супу больш давалі. Жылі ў бараках, але цёпла там было, бо вугаль са свае шахты быў. Тры гады да амністыі пачалі плаціць грашыма і можна было адказацца ад лагернай сталовай і перайсці на вольную кухню і прадукты купляць у магазіне.

Апраналі нас у ватоўкі, ватовыя нагавіцы і бушлаты. Гэта па-за шахтай, бо ў шахту апраналі ў такое, якога не мылі пакуль ад бруду зусім не парвалася. Пераапраналіся ў бані, бялізну мянялі кожныя дзесяць дзён, адзін дзень у тыдні можна было хадзіць да цырульніка. Былі *точкі*, часам канцэрты давалі: прыязджалі з Масквы, або і свае выступалі, пазней то і кіно пачалі паказваць. Бібліятэкі не было, толькі калі я выязджаў, то яе ставілі. Як увялі грошы, то ў магазіне з вопраткі можна было купіць толькі рубашку, што лепшае — *гармошку*, скрыпку ці *часы* — трэба было выпісваць.

Да амністыі выходзіць не было куды — дарога з лагера ў шахту абгароджана была. Але людзі ўцякалі, хаця і не было куды ўцякаць, бо навокал адно бязлюддзе. Толькі поездам можна было... Аднойчы адзін зняволены лейтэнант дошкі грузіў і ў іх прыгатаваў сабе і сябру месца. Забралі яны запас яды і вопратку, пагрузіліся і паехалі. І ад'ехаў той поезд шэсць кіламетраў на таварную станцыю, там сцэпшчык выявіў, што рысора лопнула і вагон на бакавы пуць адставілі. А ў лагеры не далічыліся дваіх і давай шукаць. Прыйшлі раз пад той вагон, паслухалі — нічога, прыйшлі другі раз — тое ж, а за трэцім разам разгрузілі. *Дасталі* яны даволі і разаслалі іх у другія лагеры.

А аднойчы прыехаў туды на практыку малады інжынер з Ленінграда, пабыў у Варкуце 2-3 месяцы і вярнуўся. Заехаў у Ленінград, пайшоў у кіно, а там фільм пра Варкуту паказваюць, як гэта там „камсамольцы і партыйныя" вугаль капаюць. Ён не стрымаў і на ўвесь голас замацярыўся: „Там жа катаржнікі толькі адны!" І калі фільм закончыўся, той, які сядзеў ззаду за ім паклікаў яго: „А ну, товарищ, пойдём со мною!" І *далі* яму дзесяць гадоў і ў Варкуту прыслалі!

Многія да тае Варкуты прывыкалі і нават пасля амністыі дабраахвотна аставаліся. Напрыклад, украінцы: заехалі на радзіму, а там на месцы іхных хатаў толькі бур'ян — то і вярталіся назад. І ў Варкуце добра плацілі, бо пасля трох гадоў працы давалі стопрацэнтны дадатак. А многія жанчыны спецыяльна ехалі туды, каб мужчын *падлапаць* сабе. А і сем'і маглі прыязджаць, калі не мелі грошай на білет, то можна было ім паслаць. І пасажырскі поезд раз у суткі ў Маскву хадзіў.

Я пасля амністыі яшчэ год у Варкуце прабыў, працаваў, чакаў польскіх дакументаў. Некаторыя, што са мною былі, не чакалі, толькі савецкія схапілі і паехалі, але толькі да Брэста даехалі і там ужо і асталіся. А я вярнуўся як рэпатрыянт, за ўсе заробленыя грошы купіў у Маскве вопратку, халадзільнік, матацыкл. У Брэсце яшчэ чатыры дні са знаёмымі пагуляў і — у Польшчу. У Тарэспалі далі дармовую ежу, аформілі дакументы. У вагоне трэцяга класа поўна людзей было, то ехаў я ў першым, але кандуктар — нічога. А людзі на перасадках чамаданы памагалі мне пераносіць.

А цяпер не магу дабіцца кампенсацыі за свае мукі, бо няма ўжо ні сведкаў, ні парадку ва ўрадніцкіх дакументах...

**Запісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Чаму толькі ў Кузаве?

Аб тым, як прыватныя гандляры абдурваюць і збіваюць маёнтак на нашай наіўнасці, можна прыводзіць дзесяткі прыкладаў. Возьмем першы лепшы з майго панадворка.

Калі прадпрымальнікам (а затым жа і ўладальнікам) кузаўскай крамы стала спадарыня Т. з Бельска-Падляшскага, цэны на тавары ўвялічыліся намнога больш, як у Чаромсе ці ў аб'язным аўтамабільным гандлі.

— За выгаду трэба плаціць! — гаворыць крамарка. — За тое, што крама працуе на месцы.

І людзі плацілі. „Вольнаму воля! Ніхто нікога не прымушае", — чулася сярод аднавяскоўцаў.

Аднак некаторыя старажылы, перш за ўсё пенсіянеры, пачалі пашэптваць, што ўладальнік крамы загадаў прадаўшчыцы лічыць па 10 грошаў за кожны поліэтыленавы пакет (рэкламовачку), калі тая кладзе ў яго пакупку кліенту. Прадаўшчыца не адважвалася афіцыяльна сказаць гэтаму пакупніку, бо ведае, што нідзе такога часосьці не робіцца.

— Дык чаму ж толькі ў Кузаве? — хочацца спытацца ў спадарыні Т. — Няўжо ж не абавязваюць тут законы, прынятыя ў гандлі, што прадавец абавязаны падаць тавар акуратна ўпакаваны і ўпакоўка не лічыцца ў кошт тавару?

— Прыходзіў да мяне восенню лясні к з Чаромхі. Штодзень купляў ён булачкі і мясныя вырабы, а я клала гэта ў рэкламовачку. Аднак ніколі я не адважылася яму сказаць, што ён павінен за гэтую ўпакоўку плаціць 10 грошаў больш, — гаварыла кузаўская прадаўшчыца.

Значыцца, прадпрымальнік вылічыць за кожную штуку прадаўшчыцы з зарплаты?

Ці так быць павінна?

На маю думку, такімі звычкамі нельга заваяваць сабе пашану ў асяроддзі, бо прымаўка кажа: „Як нас бачаць, так аб нас пішуць". **(ус)**

# Паляўніцтва ў Кляшчэлеўскай гміне

**Жывёла — неад'емны элемент натуральнага асяроддзя, якое ў штораз большай ступені падвяргаецца ўздзеянню чалавека. У сувязі з гэтым чалавек нясе адказнасць за стан навакольнага асяроддзя. Важную ролю ў гэтай галіне выконваюць паляўнічыя, якіх у Польшчы налічваецца каля ста тысяч і якія палююць не толькі для сваёй прыемнасці.**

У Кляшчэлях дзейнічае паляўнічы гурток „Цецярук", заснаваны ў 1947 годзе. Цяпер налічвае ён 52 паляўнічых і трое кандыдатаў. У распараджэнні гуртка маюцца 134 і 135 егерскія участкі плошчаю ў 15 тысяч гектараў, размешчаныя на тэрыторыі Кляшчэлеўскай і часткова Дубіцкай і Боцькаўскай гмін.



— Ад лістапада да канца гэтага года, — расказвае лоўчы **Яўген Адамец** (на здымку), — запланавана ў нас адзінаццаць паляванняў. Вострая зіма ў 95% знішчыла папуляцыю курапатак і да гэтых птушак цяпер не страляем (трэба дзесяці гадоў, каб аднавіць пагалоўе). Ваўкоў маем удосталь і водзяцца яны ў старым лесе каля Елянкі. Апошнім часам людзі заўважылі трох дарослых ваўкоў у Дабрывадзе. Страт ад ваўкоў у нашай гміне мы не рэгістравалі. Такія выпадкі здарыліся ў Паўлінаве і Рыгораўцах Арлянскай гміны. Відаць, ваўкі не нападаюць на хатнюю жывёлу там, дзе знаходзіцца іх логава. Над рэчкай Бялкай каля Маліннік маем бабровую запруду. Зубры да нас не заходзяць, але трапляюцца адзіночныя рысі. Многа ў нас лісоў і іх страляем паводле плана. Год таму набыў юрыдычную сілу новы паляўнічы закон, які забараняе страляць валацужных сабак і катоў, хаця часам разносяць яны шаленства. На сваёй тэрыторыі маем яшчэ ласёў, аленяў, зайцаў. Гэтых апошніх будзем у снежні лавіць і жывых экспартаваць. Вырučаныя ад гэтага грошы пойдуць на пагашэнне коштаў будовы ціра (стрэльбішча) і на кампенсацыі для сялян за ўчыненыя лясной звярынай шкоды. Нашу касу папаўняюць яшчэ валютныя паляўнічыя, раней немцы, а цяпер датчане, якія штогод прыязджаюць да нас у лістападзе або ў снежні.

Паляўнічы павінен быць цярплівым і стрыманым чалавекам і ведаць калі страляць. Трэба яму быць асцярожным і разважлівым. Чаму мы палюем? Часам паляванне дае задаволенасць, але перш за ўсё гэта рэдукцыя жывёлы, якая наносіць урон сялянам і лесу. З грошай ад продажу дзічыны ствараецца фонд, якім кампенсуем страты ў паляўнічай гаспадарцы. Паляўнічаму дастаецца толькі 20% выручкі і паляўнічыя трафеі. Найдаражэй плаціць нам за мяса сарны (11 зл. за кілаграм), а найменш за дзіка (2,5 зл.).

Я сам паляўнічай справай займаюся ўжо шаснаццаць гадоў. Найбольшае задавальненне даставіў мне адстрэл 8—9-гадовага аленя-быка, трафеі якога атрымалі бронзавы медаль.

У 1996 годзе пачалі мы будаваць стрэльбішча каля Дабрывады. Купілі мы стары жвіравы кар'ер плошчаю ў 6 гектараў і зрабілі спраўдны цір для страляння на 100 і 140 метраў. Можна на ім праводзіць таксама трэніровачную стральбу да мішэняў, якія сімвалізуюць дзікоў, зайцоў, качак і курапатак. Урачыстасць адкрыцця ціра адбылася 9 лістапада г.г.

У 1991 годзе купілі мы 9 гектараў непрыдатнай зямлі каля Сухавольцаў і за зіму зрабілі трохгектарны вадаём для вываду качак і рыбагадоўлі. Цяпер нашы паляўнічы маюць магчымасць не толькі страляць качак, але і вудзіць рыбу.

Кожны год падкормліваем лясную жывёлу, выкладаем ім сена і авёс, а ў снежны перыяд сыплем зерне аўса і жыта. Вырошчваем таксама збожжа на 11 гектарах сваіх палеткаў і рыхтуем на зіму тры тоны аўса і тону жыта ў снапах. Да кармушак звярына падыходзіць спакойна, бо прадчувае, што ніхто яе там трывожыць не будзе.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Не дзяліць

— Калі меншасці будуць займацца палітыкай, — заявіў 4 снежня г.г. новы консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку **Мікалай Крэчка**, — мы гэтага падтрымліваць не будзем. У адносінах да палітыкі яны палякі, а ў сэнсе культурных здабыткаў — беларусы.

Прэсавая канферэнцыя была склікана консулам з нагоды атрымання ім паўнамоцтваў — быў гэта першы афіцыйны і публічны выступ дыпламата. Раней (30 лістапада) М. Крэчка прыняў удзел у XIII З'ездзе дэлегатаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства, дзе, як адзначыў, сустрэўся з пасламі ў Сейм Янам Сычэўскім і Уладзімежам Цімашэвічам. Падтрымка лучнасці з палітыкамі — адна з задач консульскага прадстаўніцтва. Наконт адносін да Беларускага саюза М. Крэчка заявіў, што ён не сустрэўся дагэтуль з лідэрам гэтай арганізацыі. Сказаў таксама, што сваю дзейнасць накіруе на тое, каб беларусы не дзяліліся тут, а жылі ў згодзе.

Галоўная задача прадстаўніцтва — дапамога грамадзянам Беларусі, якія апынуліся на тэрыторыі Польшчы. Беластоцкае консульства сваім паўнамоцтвам ахоплівае 8 ваяводстваў прыгранічнай зоны. Зона гэтая адзначаецца павышанай крымінальнасцю — штодзень у консульства паступае 10-12 заяў з паліцыі аб затрыманні грамадзян Беларусі. Ад саміх жа грамадзян Беларусі ў консульства паступіла каля 1500 прашэнняў, каб аказаць ім разнастайную дапамогу. Апрача гэтага консульства выдае візы, рэгіструе шлюбы, робіць натарыяльныя запісы, падтрымлівае сувязь з ветэранамі вайны і змагання з фашызмам ды афармляе справы грамадзян Польшчы, якія звяртаюцца ў консульства, галоўным чынам, па пытаннях гаспадарчых сувязяў з Беларуссю.

М. Крэчка не спадзяецца змен у адносінах паміж Польшчай і Беларуссю пасля змены польскага ўрада. Кіраўнікі любой партыі, — сказаў ён, — якая прыходзіць да ўлады, у замежнай палітыцы кіруюцца розумам. Сам М. Крэчка не належыць да ніводнай палітычнай партыі. Лічыць, што цесныя сувязі Беларусі з Расіяй не павінны паўплываць на самастойнасць Беларусі. Як жа ж Беларусі не быць з Расіяй, калі гаспадарчыя прасторы абедзвюх краін злітыя ў 70 працэнтах? — рытарычна запытаў консул.

Ці значыць гэта, што беларусы павінны гаварыць па-руску? — нерытарычна запыталі журналісты.

Калі ў Беларусі была адна беларуская мова, — адказаў консул, — для краіны было гэта добра, але ўскладняла жыццё ўсім, хто пасяліўся там з-па-за Беларусі. Умовы для развіцця нашай мовы сёння ёсць, — дадаў ён.

Жадаючы на канец сабе і журналістам добрага супрацоўніцтва, консул Мікалай Крэчка адзначыў, што галоўнае, каб добра ўкладваліся адносіны паміж народамі, паміж простымі людзьмі, а палітыка... (*працяг на пачатку — А. М.*)

**Аляксандр Максімюк**

# Не забірайце дзецям цацак

— Націскаю, як знаю, — пракаментаваў выступленне гурту „The Dvery" падчас сёлетняй Бардаўскай восені Ян Максімюк.

Сядзелі мы ў зале па-суседску і спачатку пасмейваліся з перакручваных беларускіх слоў песняў гурту. Але вельмі хутка перастала быць смешна. Здавалася, што над мовай смяюцца са сцэны. Правільна пастаўлены націск здараўся, мабыць, толькі ў аднаскладовых словах. Узнагарода за такое „мастацтва" — запіс касеты ў студыі Беластоцкага радыё — гэта скандал, — хацеў я напісаць зараз пасля фестывалю. Не напісаў толькі таму, што сказаў сабе: „Не твоё мамаша дело..." (як павучаў калісьці нашу рэдакцыю Стары беларус).

— Спяваем выключна па-беларуску і толькі так будзем запісваць касету, — заявіла Аляксею Марозу вакалістка гурту („Ніва" № 49). А аўтар тэкст „The Dvery" — пра любоў маладых людзей да музыкі, сцэнічныя дасягненні і планы, пра вернасць родным караням і літаратурныя інспірацыі — канчае цёплым спадзяваннем: „Застаецца нам толькі чакаць касету".

Я таксама чакаю. Бо, па-першае, музыка гурту цікавая, арыгінальная, месцамі прыгожая. Па-другое, з цікавасці, ці зробяць яны што-небудзь, каб паправіць сваю беларускую мову, якая для іх — паводле дэкларацыі — так важная. Гэта ж, у рэшце рэшт, людзі свядомыя таго, што „беларуская мова не горшая за польскую". Людзі з беларускай матурай (або блізка яе) у кішэні.

Але чакаю, праўда, без вялікай надзеі. Да гэтай пары было аж надта многа часу і нагод, каб, напрыклад, падысці да свайго настаўніка беларускай мовы і папытацца, як тое ці іншае слова трэба вымаўляць і што яно абазначае. Але, з другога боку, навошта, калі ўзнагароджваюць і так, без доўгай маруднай навукі, калі настаўнік беларускай мовы, Аляксей Мароз, нават адным словам гэтага не заўважыў.

Не маю надзеі яшчэ і таму, што крытыкай можна ў нас хутчэй каго абразіць, чымсьці заахвоціць да навукі. А ўжо асабліва дрэннага слова нельга сказаць нашай „моладзі", за якую ўсе, уключна з дэлегатамі на з'езд БГКТ, змагаюцца. Трэба на яе абавязкова хукаць і дзьмухаць, бо на яе наша надзея, у ёй наша будучыня і г.д. і т.п. Інакш — возьмуць цацкі і пойдуць сабе к...

Не хачу я нікому забіраць цацак (тым больш, што ўсё часцей гэта бейсбольныя палкі). Гуляйце сабе імі, валіце ў свае бубенчыкі чым хочаце. Толькі, калі мне гэта не падабаецца, дазвольце сказаць уголас. А не падабаецца мне публічны здзек над беларускай мовай, нават калі той, хто гэта робіць, моцна яе кахае.

**Мікола Ваўранюк**

# Чэшская рэлігійнасць

Грамадзяніна Польшчы, які пабывае ў Чэшскай Рэспубліцы, найбольш уражвае стаўленне чэхаў да рэлігійнага жыцця. Найлепш гэта відаць на прыкладзе знакаміта адрэстаўраваных і пустуючых касцёлаў. Гатычныя, рэнесансавыя ці барочныя храмы сёння амаль выключна ўспрымаюцца як архітэктурныя помнікі гістарычнай спадчыны, аб'екты, якія варта пабачыць кожнаму турысту.

Пару гадоў таму шакіравалі мяне савецкія афіцэры, якія з жонкамі шпацыравалі па Ісаакаўскім саборы ў Ленінградзе ў шапках на галаве і з цыгарэтамі ў зубах. Падобныя вобразы можна было пабачыць таксама ў самім цэнтры расейскага праваслаўя ў Загорску. Але там гэтыя дзікія паводзіны былі вынікам мэтанакіраванай бальшавіцкай палітыкі.

Чэхаў да атэізму не прывяло камуністычнае кіраўніцтва краіны ў пасляваенны перыяд. Чэхі ўжо на сто гадоў да выступлення Лютэра спрабавалі рэфармаваць каталіцызм. Ян Гус — чэшскі тэолаг і ідэолаг рэфарматарскага руху — з благаслаўлення рымскага папы быў жыўцом спалены як ерэтык падчас сабору ў Канстанцы ў 1415 годзе. Смерць Гуса выклікала ў Чэхіі рэвалюцыю. Чэшскія епіскапы і святары выступілі за прапаведаванне Божага слова на роднай мове, абмежаванне маёмасці нямецкіх іерархаў, пашырэнне незалежнасці ад Рыма і святога прычашчэння ў выглядзе „хлеба і віна". Святароў падтрымалі чэшская шляхта і мяшчане. Супраць збунтаваных чэхаў імператар Зыгмунт Люксембург і папа Марцін V аб'явілі крыжовыя паходы. Для чэхаў змаганне за сваю рэфармаваную веру абазначала змаганне за незалежнасць ад нямецка-аўстрыйскай імперыі. Амаль двухсотгадовую вайну з аўстрыйскімі імператарамі і падтрымоўваючымі іх рымскімі папамі чэхі прайгралі ў 1620 годзе ў бітве пад Белай Гарой. Там загінула большасць шляхты, якая найдаўжэй імкнулася захаваць незалежнасць. Нямецкія іерархі і святары, аднак, чэшскі люд з'яднаць сабе не здолелі. Аўтарытэт рэлігіі падаў там доўгімі гадамі. Пакуль на чэшскай зямлі з'явіліся камуністы, рэлігія перастала там мець якое-небудзь грамадскае значэнне.

Касцёл св. Віта з XII стагоддзя на Градчанах кожны дзень наведваюць дзесяткі тысяч турыстаў. Рэдка які наведвальнік мужчынскага полу ўваходзячы ў касцёл здымае шапку. Закаханыя пары не перастаюць там цалавацца і абнімацца. За 100 каронаў можна падысці да самага алтара і месцаў, прызначаных выключна для святароў. Дзядзька, які абслугоўвае турыстаў, таксама лічыць непатрэбным здымаць шапку ў гэтай старажытнай чэшскай хрысціянскай святыні. Шпацыруючы ў нядзелю па старым горадзе Прагі сустракаем шмат касцёлаў — каталіцкіх і пратэстанцкіх, але нідзе няма там вернікаў, хаця ў некаторых адбываюцца багаслужбы.

Немалое здзіўленне выклікала тады шматлюдная маса вернікаў у саборы Чэшскай праваслаўнай царквы. Багаслужба адбывалася на чэшскай мове, але большасць прысутных, як мне паяснілі знаёмыя, складалі грэкі, армяне і прадстаўнікі іншых народаў, асіміляваных пражываннем на чэшскай зямлі. Рускія маюць сваю царкву, таму ў чэшскую заходзяць яны вельмі рэдка.

У цэнтры Прагі красуецца таксама прыгожая сінагога, але ў суботу і нядзелю, вядома, была закрыта. Мала праўдападобна, каб тамашнія яўрэі маліліся па панядзелках.

**Яўген Мірановіч**

# Не было і не будзе

У Боцьках збудавалі новую пачатковую школу. Вучацца ў ёй цяпер таксама дзеці з закрытых школ у Красным Сяле (летась) і Нурцы (сёлета). Аднак, разам з ліквідацыяй сваіх вясковых школ, страцілі яны таксама магчымасць вывучаць беларускую мову.

Дырэктар з Боцькаў Крыстына Улікоўска сказала, што ў мястэчку не ўспрынялі б добра, калі б яна старалася ўвесьці беларускую мову — якое там ніколі не было — у школу. Да таго, „не мае спецыяліста, не атрымала на гэта ніякіх сродкаў і, галоўнае, ніхто ёй не заявіў пра такую патрэбу". Пісаў я пра гэта ў „Ніве" ад 5 кастрычніка („На новым месцы па-новаму"), паказваў таксама праблему ў беластоцкай тэлеперадачы „Самі пра сябе".

Менавіта пасля гэтай тэлеперадачы дырэктар Пачатковай школы ў Боцьках атрымала ад беластоцкага куратара Тадэўша Калюты ліст: *W myśl Rozporządzenia MEN z dnia 24 marca 1992 w sprawie organizacji kształcenia umożliwiającego podtrzymywanie poczucia tożsamości narodowej, etnicznej i językowej uczniów należących do mniejszości narodowych (Dz.U. nr 34 poz. 150) na dyrektorze szkoły spoczywa obowiązek zapewnienia uczniom ciągłości nauczania języka białoruskiego. W Nurcu naukq tego języka było objętych 24 uczniów, których rodzice złożyli odpowiednie wnioski zgodnie z wyżej cytowanym Rozporządzeniem. Jak wynika z zatwierdzonego arkusza organizacji szkoły, w placówce jest zatrudniony specjalista o odpowiednich kwalifikacjach — mgr filologii białoruskiej — Stefan Iwaniuk. Subwencja oświatowa przeznaczona na prowadzenie szkoły zawiera fundusze na nauczanie języka mniejszości narodowych. Mając powyższe na uwadze pani dyrektor powinna stworzyć uczniom optymalne warunki do nauki języka białoruskiego.*

Калі параўнаць змест пісьма з дадзенай мне паняй дырэктар (перад камерай!) інфармацыяй, дык не выклікае ў ёй сумневу, мабыць, толькі непрыхільнасць асяроддзя Боцькаў да беларускай мовы. Яна, відаць, настолькі вялікая, што нават загад куратара не будзе ажыццяўляцца. Куратар, як вядома, далёка ў Беластоку, а жыць трэба тут, у Боцьках. Таму прэцэдэнт лепш не рабіць.

Дырэктар Улікоўска выслала 28 лістапада ў Беластоцкую асветную кураторыю ліст, у якім сцвярджаецца, *że rodzice uczniów przybyłych do szkoły w Boćkach z Nurca na zebraniu w dniu 09.10.1997 r. i w oświadczeniach pisemnych nie wyrazili chęci by ich dzieci kontynuowały naukę języka białoruskiego. Uzasadniali tym, że język białoruski nie jest przydatny w przyszłości, bardzo myli się dzieciom z językiem rosyjskim, którego uczą się w Boćkach.*

Усё. *Finita la commedia.*

**Мікола Ваўранюк**

# Усебеларускі кангрэс...

[1 ☞ працяг]

кола прыхільнікаў незалежнасці. 14 снежня Іван Серада афіцыйна адкрыў Кангрэс і ўсе пастановы ад гэтай пары, згодна з раней апрацаваным рэгламентам, мелі станавіцца абавязваючымі законамі на Беларусі. Кангрэс паспеў толькі прыняць праграмную рэзалюцыю аб устанаўленні дэмакратычнага рэспубліканскага ладу на Беларусі і выбраць Раду з 46 чалавек. Бальшавікі вырашылі не чакаць чарговых пастаноў Кангрэса і паслалі на ўдзельнікаў п'яных салдат, якімі камандаваў начальнік мінскага гарнізона Крывашэін і старшыня ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Ландэр. Бальшавікі арыштавалі прэзідыум Кангрэса і разагналі прадстаўніцтва беларускага народа. Выбраная раней Рада, згодна з законам, пераняла кампетэнцыі гэтага нацыянальнага форуму.

**Яўген Мірановіч**

# „Навучыўся радавацца чужой радасці...”

## *Лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка*

Прага, 27.09.1963 г.

Дарагі Максіме!

Кожная добрая вестка з Радзімы мяне радуе, Тваё ж пісьмо абрадавала мяне яшчэ мацней, тым болей, што я, ведаючы, як Ты заняты, не чакаў яго. Шчыра дзякую! Пішаш аб непакоі, з якім сустракаеш у апошнія гады дзень нараджэння. Як мне гэта знаёма! Але паэт можа пісаць (тварыць) покуль жыве, нават калі ён не мае добрага здароўя. Горш, браце, у спевака. Жывеш, расцеш, развіваешся духова і якраз тады, калі хацеў бы і мог бы сказаць (спяваць) найбольш, вакальны інструмент і „падвядзе”, а калі не ён, дык агульны стан здароўя. Праўда, я не магу моцна наракаць, бо ўсё ж яшчэ спяваю. Прыношу радасць іншым і навучыўся радавацца чужой радасці. Гэта дае мне многа прыгожых хвілін. Але як доўга гэта можа трываць (прадаўжацца)? Жыву чацвёрты год на сёмую дзесятку. З сямярых дзяцей (столькі нас было ў маткі, — бацьку зусім не памятаю) астаўся адзін. Шкадую, што не змог „размножыцца”. Можа, дзеці мае змаглі б зрабіць больш, чым гэта ўдалося мне. Але гэта, як кажуць, мімаходам. Вернемся да Твайго пісьма. Вершы Твае, за якія шчыра дзякую, вельмі мне спадабаліся: і думкі-малюнкі (вобразы), і музыка-мова. Не дзіўлюся, што шмат хто на Беларусі яшчэ любіць сваю мову. (Памятаеш, у Польшчы нашу мову называлі мужыцкаю?!.) Першы верш „Кажуць людзі...” ужо нават навучыўся на памяць, і калі спаткаемся, то прадэкламую яго, а, можа, нават і заспяваю. А спаткацца вельмі хачу. Хачу заглянуць і на Тваю радзіму. Кажуць, што хутка можна будзе з аднае сацыялістычнае дзяржавы паехаць у другую без асаблівых фармальнасцяў. Вось гэта будзе вялікае дасягненне! Не можаш сабе ўявіць, як на апошнім канцэрце ў Мінску мне хацелася, хоць на пару дзён, астацца, пабыць з Вамі, пагаварыць, не адчуваючы вялікае адказнасці (ответственности) выступлення. Бо, калі я мушу (маю) спяваць, я, звычайна, ні на хвіліну не магу аб гэтым забыць і бываю для блізкіх і малацікавы, і малапрыемны. Баюся, што такім я быў і ў Цябе на абедзе, аб якім як так рад успамінаю. І ўсё хацеў аб гэтым напісаць Любові Андрэеўне, каб не злавалася на мяне. Паганая ў мяне натура: здароўя мала, а заспяваць хачу як найлепей. І заўсёды стараюся, хоць ніколі не ўдаецца, заспяваць так, як хачу. Бывае мне ад гэтага сумна (нават пасля вялікага поспеху). І таму Твае „сумнаватыя” вершы вельмі добра падыходзяць да майго настрою. Твая праца, браток, не загіне: Ты „памятник воздвиг себе нерукотворный...”, а ад мае астануцца „рожкі ды ножкі”. Хочацца перадаць каму-небудзь свой вопыт, свае дасягненні ў мастацтве (хоць і скромныя), і дзеля гэтага даю лекцыі спеву. Многа каму памог. Але гэта ўсё не тое. Трэба трапіць на талент, а ён не часта сустракаецца.

Моцна мяне радуе, што з сябрамі ўспамінаеце мяне добрым словам. Праўду кажучы, я ў думках (асабліва ў бяссонныя ночы) больш з Вамі, чым з тымі, хто блізка мяне. Хацелася б заспяваць Вам так проста, па-дамашняму „без фраку”, ведаючы, што слухаюць толькі сябры, перад якімі можна адкрыць усю душу, дзеля якіх „трэба няспынна ісці да зары”.

У надзеі, што гэта збудзецца, шлю Табе з сям'ёй, Рыгору Раманавічу і ўсім тым, хто ўспамінае мяне добрым словам, сардэчныя прывітанні.

З удзячнасцю абдымаю Цябе.

Твой Міхась Забэйда.

PS. Ноты перапісваю. Як кончу, прышлю.

М. З.

* * *

2.02.1964 г.

Дарагі, мілы дружа, Максіме!

Пішу Табе яшчэ з бальніцы, але з надзеяй, што адгэтуль выйду. (Пару дзён таму назад думаў, што вынясуць). Аперацыя адбылася 5.01. г.г. Рабіў сам кіраўнік, дацэнт доктар Пачэс. Але пасля аперацыі насталі розныя камплікацыі. Дагэтуль не маю нармальнай тэмпературы. Аднак адчуваю сябе ўжо лепш і вясной думаю спяваць. Калі захочаце, дык і да Вас прыеду. Прыемнай неспадзяванкай было тое, што да мяне, адзінокага, у дні адведзін прыходзіла столькі людзей, што не толькі я, але і іншыя пацыенты дзівіліся. І толькі за песні!.. Перадай, калі ласка, усім сябрам вялікую падзяку за іх шчырыя словы спагады ў маім няшчасці. Памаленьку буду ім адказваць. А цяпер жадаю Табе, Тваёй сям'і і супольным знаёмым многа-многа шчасця. Абдымаю. Твой

Міхась Забэйда.

* * *

Прага, 30.04.1964 г.

Дарагі Максіме!

Дагэтуль не адказаў на Твае мілае і, як заўсёды, цікавае пісьмо, бо спадзяваўся, што хутка зноў заспяваю на Радзіме. Цяпер бачу, што памыляўся і да падарожжа рыхтаваўся надарма, бо нічога аб гэтым нічога не пішa. Сумна!.. Значыць, і грампласцінак новых не будзе.

З Твайго пісьма відаць, як мала Ты маеш часу на творчую працу. Шкада. Ці ж не мог бы даклады рабіць нехта іншы?

Пасылаю Табе апошні артыкул аб маёй працы. Напісаў яго пражскі навуковец, кампазітар і крытык доктар Р. Фікрле. Калі хочаш і можаш, выкарыстай у друку. І яшчэ, пасылаю кнігу аб найлепшых мастаках Чэхаславакіі. На старонцы 287 і 465 знойдзеш пару цікавых радкоў і аба мне.

Гэтым разам не пішу Табе многа, каб не забіраць Твайго часу на чытанне. Канчаю найлепшым Першамайскім пажаданнем і прывітаннем Табе, дарагі паэт, Тваёй сям'і і нашым сябрам. Мо яшчэ калі ўгледзімся.

Твой М. Забэйда

# Прапаведаваць, настойваць па-беларуску

Людзі гавораць на розных мовах па Божай волі. Бог памяшаў людзям мовы, каб яны не змаглі дабудаваць вавілонскую вежу да неба. Усё ж такі ўсё некаму хочацца, каб усе людзі гаварылі на нейкім „общепонятном наречьи”. У наш час найбліжэйшая такога статусу англійская мова, на якой выходзіць ажно 95% сусветнай літаратуры ў г.зв. дакладных навуках. Няўжо ж толькі ніштожнае 5% выданняў аддзяляе нас ад чарговай катастрофы, якая спыніць навукова-тэхнічны прагрэс, гэтую вавілонскую вежу нашага часу?

Беларусы здаўна спасылаюцца на Божую волю, праяўленую ў час пабудовы вавілонскай вежы, каб адстойваць правы сваёй мовы, асабліва ў святынях. Усё ж такі будаўнікі вавілонскай вежы ўпартыя і беларускую мову ў святыні можна пачуць толькі зрэдку.

Нешматлікія таксама рэлігійныя выданні на беларускай мове. Таму з'яўленне кожнага выдання можна лічыць падзеяй. Вось айцец Канстанцін Бандарук, беластачанін, які працуе на Радыё Свабода ў Празе, узбагаціў праваслаўную беларскую літаратуру ажно дзвюма кніжкамі.

У адной, пад загалоўкам „Пазнай сваё”, аўтар у простай, даступнай форме дае неабходную інфармацыю пра літургічнае жыццё Царквы, малітвы, свянтарства, багаслужбы, абрады, пасты, святы і асноўныя абавязкі праваслаўнага хрысціяніна. Кніжка можа быць дапаможнікам у навучанні дзяцей Закону Божага і свайго роду даведнікам для дарослых вернікаў, якім не хапае ведаў пра сутнасць сваёй веры.

Іншы характар мае другая кніжка а. Канстанціна — „Праўда вас вызваліць”. Змяшчае яна некалькі дзесяткаў рэлігійных гутарак. Пішучы іх а. Канстанцін скарыстаў шматгадовы вопыт сваёй святарскай службы і працы ў эфіры Радыё Свабода. Пісаў гэтыя гутаркі і ў нашу „Ніву”. Гутаркі а. Канстанціна адыходзяць ад класічнага канону царкоўнай казані і маюць форму свабоднага разважання. Адметнасць гэтых гутарак і ў тым, што іх аўтар замест, як гэта звычайна прынята, паяснянць тэкст Евангелля сучаснымі паняццямі, гаворыць пра сучаснага чалавека і яго праблемы ў духу Евангелля. І так, у гутарцы аб малітве „Ойча наш” а. Канстанцін разважае і пра разгубленасць сучаснага чалавека, які „паўторна вырашыў пабудаваць вавілонскую вежу, аднак вынік будзе той жа, што ў першы раз”, і пра разгубленасць беларускага народу. Разважаючы аб „Жыцці і смерці”, прыводзіць самыя актуальныя прыклады прынцэсы Дыяны і маці Тэрэзы з Калькуты.

Аўтар прытрымоўваецца „дарэформеннага” правапісу (з мяккім знакам), але непаслядоўна. Уласныя імёны найчасцей падае ў „паслярэформеннай” форме. Тагo роду і сінтаксіс. Як можна дадумацца, мэтай аўтара было знайсці залатую сярэдзіну між літаратурнай традыцыяй, якая захавалася ў эміграцыі, і тым, да чаго прывыклі вернікі на радзіме. А гутаркі могуць быць карысныя не толькі для звычайных вернікаў, але і для святароў пры падрыхтоўцы казанняў.

Як піша а. Канстанцін Бандарук ва ўступным слове да кніжкі „Праўда вас вызваліць”, „асноўнай прычынай ейнага выдання было перакананне, што не толькі ў адпаведнасці з заклікам апостала Паўла трэба „прапаведаваць, настойваць у пару і не ў пару” (2 Цім. 4, 2), але рабіць гэта якраз пабеларуску. Дзякуй Богу, што ёсць каму гэта рабіць.

**Алег Латышонак**

* а. Канстанцін Бандарук, *Пазнай сваё*, Беласток—Прага—Саўт-Рывэр 1997; таго ж, *Праўда вас вызваліць*, Беласток—Прага—Саўт-Рывэр 1997.

# „Наша ніва” і ўсходняя Беласточчына

**Частка 5**

Пачынаючы з трэцяга нумара за 1906 год „Наша ніва” пачала друкаваць рубрыку „З Беларусі і Літвы”. Паяўляліся ў ёй кароткія інфармацыі аб розных падзеях з усіх рэгіёнаў Беларусі, а таксама Літвы, дзе жылі беларусы. Інфармацыі гэтыя, як правіла, мелі бытавы характар, аднак нярэдка іх аўтары, якімі былі мясцовыя карэспандэнты, закраналі таксама агульнакультурныя, асветніцкія, а таксама палітычныя і рэлігійныя пытанні.

Першая, даволі грунтоўная публікацыя аб усходнебеластоцкай вёсцы Кленікі паявілася ў другім нумары „Нашай нівы” за 1907 год. Аўтарам яе быў Яўген Хлябцэвіч, які падпісваўся псеўданімам „Халімон з-пад пушчы”. Ужо гэтая першая публікацыя сведчыла аб тым, што яе аўтар валодае дасканалай назіральнасцю і што аўтэнтызм ды факталогія з'яўляюцца для яго найважнейшай справай. Вось вытрымка з гэтай цікавай публікацыі.

„У Кленіках каля каляд быў валасны сход, каб зрабіць рахунак (смету) даходаў і расходаў на 1907 год. Пастанавілі расходы паменшыць. „Пісару, крычалі мужыкі, трэба знзць усю ссыпку, ды яшчэ з пенсіі 150 рублёў; і так яму застаецца 250 рублёў — гэта досі”. Аб старшыне пастанавілі: „Цябе, старшына, летась самі мы выбралі, так няма як табе паменшыць пенсію. Няхай астаецца па-старому 140 рублёў у год. Але ж, калі будзеш браць хабары, ды запазычкі з абчэственнай касы дзерці з кожнага па рублю ў сваю кішэню, як стары старшына, то адымем ад цябе палову песніі або ўсю!” А суддзям мужыкі сказалі: „Калі назаводзілі земскіх начальнікаў і суды ад міравых пераішлі ў валасць, мы думалі, што вы нашы выбарныя суддзі (з мужыкоў), будзеце судзіць па праўдзе, хабараў браць не будзеце, — вось і назначылі мы вам пенсіі: тром суддзям па 36 рублёў, а прэдседацелю — 40 рублёў. А выйшла саўсім не тое: суддзі з прэдседацелем цягнулі добра хабары, ды судзілі несправядліва. Апошні прэдседацель той быў горшы за ўсіх суддзяў, каторые самі ссалі мужыцкія кішэні, як парасята свінню”. І за гэта ўсё пастанавіў сход соўсім не плаціць пенсіі суддзям і прэдседацелю. „А судзіць мы будзем самі пачародзі, — сказалі мужыкі, — бо і так кожны з нас чакае, што яго выберуць у суддзі. Толькі дзеля аднаго гонару пайшоў бы ў суддзі, а тым часам нашы суддзі апроч пенсіі і гонару, яшчэ хабары цягнуць. Не трэба нам такіх!” Грошы на жандарскую кватэру — 12 руб. — сход пастанавіў не даваць саўсім. Адзін з мужыкоў і кажэ: „Хлопцы, дайце яму 12 руб., хай бярэ, то не будзе чапляцца”. — „Не дамо! — крыкнула грамада, — жандар тут не жывець, дык на што мы будзем грошы даваці на ўсялякае глупства? Калі прыедзе з гораду на два дні, няхай прыходзіць да кожнага з нас — дамо яму куль саломы, няхай у клуні спіць — вось яму кватэра!” Сход гэты быў надта шумны. Некаторыя мужыкі крычалі: „Хлопцы! Забастоўка! Ура! Усюды рух — няхай і ў нас!” А другія казалі: „І дзяды, і прадзеды не помняць такога сходу”. Але ж на сходзі не было земскага і прыгавору не напісалі. Прыгавор будуць пісаць 12 января і разам выбіраць у Государственную Думу „сваіх людзей”.

Гэтая даўгаватая цытата дасканала характарызуе атмасферу, навеяную рэвалюцыяй 1905 года, калі ўскалыхнулася вызначна сялянская маса і, кіруючыся прынцыпам лакальнай дэмакратыі, захацела кіраваць сваім лёсам. Ужо ў гэтай карэспан-

[працяг ☞ 10]

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# У Орлі цікавяцца мінуўшчынай

Другакласнікі ПШ у Орлі з ахвотай і цікавасцю ходзяць на ўрокі беларускай мовы. Іх настаўніца Яўгенія Тхарэўская стараецца, каб гэтыя заняткі былі незвычайнымі.

Увесь клас вельмі сардэчна сустракае карэспандэнта „Нівы". І яшчэ заяўляюць, што такіх урокаў чакаюць з нецярплівасцю. У снежні г.г. другакласнікі знаёміліся з гісторыяй свайго наваколля. Яны аглядалі старыя здымкі і слухалі аповеды ніжэйпадпісанага.

Найперш дзеці знаёміліся з мінулым арлянскага замка. Пабудаваў яго ў 1622 годзе Крыстафор Радзівіл, уладальнік Орлі. Яшчэ і сёння ў месцы замка можна знайсці шмат слядоў ад пабудовы. Замак знаходзіўся якраз амаль насупраць школы.

Далей школьнікі даведаліся ад мяне пра лёс тутэйшай сінагогі і яўрэйскіх могілак. Яны паглядзелі фатаграфіі Орлі пасля пажару, які ўспыхнуў 18 мая 1938 г. Тады згарэла 540 будынкаў. Дзеці даведаліся, што ў тым месцы, дзе зараз стаіць іх прыгожая школа, у пачатку XX стагоддзя існаваў шпіталь. Цікавасць выклікала таксама звестка пра тое, што ў ПШ у Орлі заўсёды вялося навучанне беларускай мове. Пасля даклада дзеці ставілі многа пытанняў. Дзеля замацавання тэмы беларусістка Яўгенія Тхарэўская правярала веды. Аказалася, і гэта было цудоўным сюрпрызам, што ўсе дзеці шмат чаго навучыліся. Самай актыўнай вучаніцай (яна не раз апярэджвала карэспандэнта) паказалася Паўліна Ляўчук. Яна жыве на месцы, дзе калісь стаяў замак. Многа пра гэта расказваў ёй дзядуля Яўген. Яе мама Іаланта настаўнічае ў нашай школе, а бабуля Тацяна таксама была настаўніцай і заадно кіраўніком школы ў Орлі.



*Другакласнікі знаёмяцца са старымі здымкамі. З дзецьмі — Яўгенія Тхарэўская.*

Сярод хлапчукоў найбольш актыўным быў Марк Лемеш з Кашалёў. Ён не толькі ставіў разумныя пытанні, але і расказваў пра сваю вёску Кашалі. Хочацца верыць, што нашым шляхам пойдуць і старэйшыя вучні ПШ у Орлі.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

## *Вершы Віктара Шведа*

### Якога роду?

— Разумны ты заўсёды,
Дарагі Арсень.
Скажы, якога роду
Назоўнік *ячмень*?

— Мужчынскі род гэта, —
Чуюцца галасы. —
Мужчынская прыкмета —
Доўгія вусы.

### Што ж гэта за жыццё

— Кажаш, што ў магіле
Наш татулька лёг.
Яго ж пасадзілі
Надоўга ў астрог.

У цябе наш татка
Стаўся небыццём.
А на гэта матка:
— Што ж гэта за жыццё?

# Конкурс, конкурс, конкурс!

*(літаратурныя гульні н-р 10)*

Адкажыце на пытанні. Адказы на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Аўтары прынамсі трох правільных адказаў могуць выйграць беларускія кніжкі. Просім адзначыць свой узрост.

1. Назавіце беларускае літаратурнае аб'яднанне ў Польшчы. Калі яно было заснавана? Хто з'яўляецца яго старшынёй?
2. Пра што піша Сакрат Яновіч у „Сярэбраным ездаку"? Дзе аўтар памяшчае дзеянне твора?
3. Назавіце аўтараў беларускай дзіцячай літаратуры (прынамсі двух).
4. Кім быў Бранілаў Тарашкевіч?
5. Як называлася першая беларуская асветніца? Што пра яе ведаеце?

**Адказ на літаратурны конкурс н-р 6:**
1. Першы зборнік паэзіі Максіма Танка **На этапах** выйшаў у 1936 годзе.
2. Статут Вялікага княства Літоўскага напісаны на (старажытнай) **беларускай мове**.
3. Паўлюк Багрым быў **кавалём і земляробам**.
4. Беларускі пісьменнік Аляксей Карпюк нарадзіўся на Беласточчыне, у вёсцы **Страшава Гарадоцкай гміны**.
5. Аўтар паэмы „Тарас на Парнасе" доўгі час быў невядомы. Самую паэму літаратуразнаўцы залічылі ў рад ананімнай літаратуры. Апошнім часам Кацярына Уверская (дырэктар Краязнаўчага музея ў Гарадку, што ў Беларусі) сцвярджае, што ёсць падставы назваць аўтара паэмы. Паводле сабраных матэрыялаў, у ліку якіх ёсць і рукапіс твора, аўтарства „Тараса на Парнасе" належыць **Канстанціну Вераніцыну**, ураджэнцу вёскі Астраўляны.

Узнагароду — навейшую кнігу **Адама Глёбуса „Койданава"** выйграла **Ірэна Кулік** (Гайнаўскі ліцэй — кл. I „ц") і **Марцін Мялешка** (VIII кл. ПШ у Новым Корніне).

# У гасцях

Мы — вучні III „а" класа бельскай „тройкі" — двойчы былі на экскурсіі ў цікавых і вельмі гасцінных людзей.

Ніна і Аляксандр Бабулевічы жывуць у Бельску-Падляшскім па вуліцы Хмельнай, 56. Яны — бабуля і дзядуля нашай школьнай сяброўкі Наталькі Бабулевіч. У іх вельмі прыгожы маленькі домік з горкай, які пабудавалі сваімі рукамі. А колькі тут хатняй жывёлы! Зацікавілі нас козы, трусы, індыкі, гусі, куры, сабакі. Мы аглядалі поле і агародніну. Пра ўсё мы расказвалі, пісалі, малявалі на ўроках.

А як нас тут частавалі! Пры вогнішчы смакавалі мы каўбаскі. Смачны таксама быў сыр з казінага малака. А якое пышнае было пячэнне і кампот для 26 вучняў!

Мы з захапленнем слухалі і аглядалі працы і школьныя пасведчанні дзяцей спадарства Бабулевічаў, цяпер ужо дарослых. Там былі адны пяцёркі. Сёння ўсе яны з вышэйшай адукацыяй (два матэматыкі, лекар і біёлаг). Ёсць ім чым ганарыцца. Мы ўсе захапляемся іх гасціннасцю, сардэчнасцю, гаспадарлівасцю! „Мы ўсе іх унукі" — так сказала Натальчына бабуля.

Дзякуем ім за ўсё і жадаем добрага здароўя.

**Вучні і настаўніца класа III „а"
Пачатковай школы н-р 3
у Бельску-Падляшскім**

# Польска-беларуская крыжаванка № 51

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Garaż | ▼ | Rząd | ▼ | Bożek, opiekun domu / Nauka | Książka | Osnowa | |
| Jutrzenka ▶ | | | ▼ | | ▼ | ▼ | ▼ | Opracowanie |
| Zabawy | Romans ▶ | | | | | | | ▼ |
| Rocznica ▶ ▼ | | | | | | | | |
| ▶ | | | Węgorz ▶ | | | | | |
| Wąż / Liryka | | Ciekawy ▶ | | | | | | |
| ▶ | | | | | | As ▶ | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 47:** пярсцёнак, дапамога, Акінава, качан, бядак, рака, спіч, цана, Нёман, новы, нага, кант.

Узнагароды, **каляровыя фламастэры**, выйгралі: **Кася Леанюк** з Гайнаўкі, **Сільвія Пятрышык** з Тыневіч-Вялікіх, **Адам Банькоўскі** і **Магдалена Крышпінюк** з Бельска-Падляшскага, **Марцін Лукошык** з Гарадка.

**Каляровыя фарбы выйгралі вучні I „ц" класа ПШ н-р 4 у Беластоку. Віншуем!**

Талон „Зоркі" № 51
21.12.1997


*Жыве Беларусь! Першакласніца ПШ н-р 4 у Беластоку Эля Юшчук.*

# Францыск Скарына

## *альбо Як да нас прыйшла кніга*

*(працяг; пачатак у 47 нумары)*

**Чым пісалі на папірусе**

Людзі здаўна пісалі заўсёды тым, што магло пакінуць след: на камені выбівалі зубілам, на метале вырэзвалі разцом, на гліне выціскалі знакі завостранаю палачкаю.

На папірусе пісалі, абмакнуўшы ў чарніла, трысняговаю або драўлянаю палачкаю. У самыя даўнія часы трысняговую сцяблінку проста зразалі наўкос, а пазней людзі дадумаліся завострываць яе з двух бакоў — такое „пяро" пакідала больш тонкі след. Канец „пяра" расшчаплялі папалам.

Што ж да чарніла, то даўней яно часта было падобнае да таго, якім пісалі вашы дзяды ці бацькі. Чарніла з сажы. Да яе дадавалі яшчэ і вішнёвага клею — камедзі. Выраблялі чарніла таксама са спаленых касцей, з костачак садавіны.

Такое чарніла лёгка змывалася, і тагачасныя вучні часам нават злізвалі языком свае памылкі. Старажытнае паданне расказвае, што адзін уладар прымушаў так рабіць паэтаў, якія пісалі благія вершы.

Усё ж трэба зазначыць, што асобныя запісы такім чарнілам і за дзве тысячы гадоў не страцілі свайго адметнага, сажнага бляску і колеру, добра глядзяцца і сёння, нібыта напісаныя тушшу.

Чырвонае чарніла выраблялі з вохры.

Кожны даўнейшы пісец апрача кубачка для вады павінен быў мець і пенал — дошчачку з выразамі для трысняговых палачак і з дзвюма ямкамі для чорнай і чырвонай фарбы. Навошта былі дзве фарбы, вы ўжо ведаеце.

Што яшчэ варта сказаць: перапісваннем у старажытнасці займаліся амаль выключна рабы. Хоць вольныя мужчыны і жанчыны ўмелі пісаць, але нават пісьмы за іх пісалі нявольнікі пад дыктоўку. А сваё аўтарства яны зазначалі тым, што рабілі прыпіску да тэксту: „Бачыў".

Захоўвалі папірусныя скруткі ў гліняных збанах або скрынках. Між іншым, такія скрынкі спярша і называлі „бібліятэкі" (што па-грэчаску значыла „кнігасхоў"). Пазней гэтым словам пачалі называць і памяшканні, у якіх трымалі кнігі. Так пастунова слова „бібліятэка" набывала наш сённяшні сэнс.

Вялікую шкоду рукапісам прычынялі розныя жучкі-паразіты. Каб уратаваць ад іх, папірусы апускалі ў кедравы алей. Аднак найгоршым ворагам была вільгаць. Тысячы рукапісаў згінулі праз яе ў нізоўях Ніла, на радзіме папірусу. Ацалелі толькі тыя, што былі ў пустынях.

Найдаўнейшаму ж папіруснаму скрутку, што дайшоў да нас, 5 тысяч гадоў. Яго знайшлі незапісаным у труне аднаго з даўніх уладароў. Старажытныя егіпцяне верылі ў замагільнае жыццё сваіх продкаў і клалі нябожчыку ў магілу чысты папірусны скрутак, які нібыта спатрэбіцца яму на тым свеце.

*(працяг будзе)*

**Анатоль Клышка**

# *Пішуць школьнікі*

**Добры дзень „Зорка"!**

Мяне завуць Мажэна. Я — вучаніца сёмага класа Пачатковай школы ў Гайнаўцы.

Мае зацікаўленні — жывёльны свет і прыродаапісальныя, прыгодніцкія кніжкі. Люблю таксама крыніцы інфармацыі: энцыклапедыі, слоўнікі.

Маёй самай любімай жывёлай з'яўляецца сабака. У маёй бабкі ёсць сабачка, яго клічуць Бінго.

У школе найбольш люблю ўрокі матэматыкі. На заняткі беларускай мовы хаджу тры разы ў тыдзень. На ўроках мы часта чытаем „Ніву", перш за ўсё артыкулы для дзяцей. Мы рашаем практыкаванні, чытаем апавяданні. Урокі беларускай мовы вядзе настаўніца Тамара Грыгарук. Яна вучыць нас вельмі цікава.

З найлепшымі пажаданнямі —

**Мажэна Саевіч**
**клас VII „ц" ПШ н-р 6 у Гайнаўцы**

# Мая сям'я

Хачу расказаць пра сваю сям'ю. Мая сям'я налічвае сем асоб. Мама даглядае хатнія справы. Тата працуе на гаспадарцы. Я памагаю сваім бацькам. У асобнай хаце жывуць бабуля і дзядуля.

У мяне дзве сястры, Ася і Паўліна. Сястра Ася вучыцца ў шостым класе, а наймалодшая з нас яшчэ не ходзіць у школу. Ёй чатыры гады. Маімі найлепшымі сябрамі ёсць Адам і Андрэй. Найбольш люблю гуляць у настольны тэніс, пінг-понг.

**Марцін Мялешка**
**Катоўка**

# Міфы старой Беларусі

**12. Дзявоя**

Дзявоя — багіня цнатлівасці. У Беларусі яна вядомая пад рознымі іменамі: Гожня, Сева, Калая.

Задачай Дзявоі з'яўляецца апякунства дзяўчат. Яшчэ і сёння пры выхадзе замуж дзяўчыны святкуюць апошні дзень дзявоцтва — паненскі вечар. Гэта старажытны абрад прысвечаны якраз багіні цнатлівасці. Пасля замужжа дзяўчына пазбаўляецца апякунства Дзявоі.

**Ератнікі**

Ератнікамі беларусы лічылі ведзьмароў і ведзьмаў, якія перад смерцю жадаюць адрачыся ад сваіх агідных паводзін, але ім на гэта не дазваляюць чэрці. Кожную ноч ератнікі паяўляюцца на дарогах каб мучыць запозненых падарожнікаў. Яны могуць рабіць тое ж і ў хаце ці на двары. Іх паганая дзейнасць працягваецца да золку, звычайна да першых пеўняў. Дзёрзкі нячысцік раптоўна прыстае да ахвяры, хапае яе за горла і душыць. Часам ахвяра губляе прытомнасць, кідаецца, часам памірае. Ератнік цешыцца, калі чалавек баіцца і пакутуе.

На шчасце ератнікі паяўляюцца рэдка, ды і самі нішчаць адзін аднаго. Два ератнікі неміласэрна грызуцца, драпаюцца, душаць адзін аднаго і заўсёды толькі адзін з іх застаецца цэлы. Людзі таксама навучыліся зводзіць са свету гэтых пачвар. Яны хутка гінуць ад вострых ран, уколаў, парэзаў. Пры кожнай гібелі ератніка ўспыхае смярдзючы прах. Ён шкодны для здароўя людзей і жывёл.


*— Трэба было мне паслухаць суседзяў, калі раілі мне купіць сабе таксіка.*
Малюнак Юліты ГАЎРЫЛЮК і Касі ГАЛЕНКІ — вучаніц VIII класа ПШ у Чыжах

# Беларускія паслы ў Сейме II Рэчы Паспалітай

Пасля 1921 года ў межах II Рэчы Паспалітай пражывала каля 2 мільёнаў беларусаў. У першых выбарах, якія адбыліся ў Польшчы ў 1919 годзе, беларусы не бралі ўдзелу. 5 лістапада 1922 года было выбраных 11 парламентарыяў, якія прадстаўлялі амаль усе партыі Заходняй Беларусі. Найбольш было ўсялякіх сацыялістаў — Антон Аўсянік, Пётр Мятла, Браніслаў Тарашкевіч, Фабіян Ярэміч, Сяргей Баран, Уладзімір Каліноўскі, Сымон Якавюк, Сымон Рак-Міхайлоўскі. Ад хрысціянскіх дэмакратаў беларусаў прадстаўляў Адам Станкевіч. Мікола Каханоўскі і Васіль Рагуля былі беспартыйнымі. Трох беларусаў — Вячаслаў Багдановіч, Аляксандр Уласаў, Адам Назарэўскі — было абраных сенатарамі. Усе яны стварылі Беларускі пасольскі клуб, які як установа праіснаваў да 1930 года. Пасольскі клуб адстойваў сацыяльныя і нацыянальныя інтарэсы беларусаў грамадзян Польшчы. Антыбеларуская палітыка польскіх улад выклікала сярод беларускіх парламентарыяў вельмі радыкальныя настроі. Ніхто аднак не зважаў на драматычныя выступленні Тарашкевіча, Міхайлоўскага, Ярэміча і іншых. Сацыялісты, якімі кіраваў Тарашкевіч, вырашылі тады стварыць грамадскі рух і змагацца за правы беларусаў не толькі парламенцкімі метадамі. Заснавалі яны новы пасольскі клуб Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У студзені 1927 года гэты рух быў уладамі ліквідаваны.

У 1928 годзе беларусы выбралі 5 сваіх паслоў ад Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і Беларускага сялянскага саюза — Паўла Карузу, Альбіна Стаповіча, Янку Станкевіча, Кастуся Юхневіча і Фабіяна Ярэміча, а таксама двух сенатараў — Багдановіча і Рагулю. Падчас наступных выбараў 1930 года, у выніку супрацьдзеяння санацыйных улад, ніводзін беларус не атрымаў месца ў польскім парламенце. Двухмільённае грамадства прадстаўлялі ў Сейме людзі рашуча яму непрыхільныя.

Яшчэ да юбілею

# „Неспадзявайкі” ў Чыжах

Прачытаўшы такое ў загалоўку, многія з чытачоў задумаюцца і пачнуць шукаць у сваёй памяці калектыў з такой назвай. Не знайшоўшы такога сярод многіх гуртоў на Беласточчыне, падумаюць, што пэўна на святкаванне дзесяцігадовага юбілею „Чыжавян” прыехаў пагасцяваць і парадаваць сваімі песнямі, так юбіляраў, як і публіку, якісьці менш вядомы калектыў з Беларусі. Таму неадкладна паясняю, што „неспадзявайкі” — гэта не калектыў, а толькі гутарковае і не зусім літаратурнае найменне (таму і яно ў двукоссі) нечаканых падзей. Інакш можна было б сказаць і напісаць: неспадзеўка, нечаканасць, сюрпрыз. Але такога роду здарэнняў чалавек не заўсёды можа пазбегчы і калі яны прыемныя, дык тады цешаць усіх, а калі нясуць з сабой адмоўныя і не зусім прыемныя з’явы, тады робяцца не толькі нечаканымі, але і нежаданымі. Але калі гаварыць пра канкрэтны від мерапрыемства, г.зн. юбілей, такія сітуацыі ўносяць у іх нешта новае, разбураючы даволі штампавы і крыху ўжо нуднаваты іх сцэнарый. Людзям прыеліся прывітанні, віншаванні, песні, прамовы, кветкі, узнагароды, а нават ордэны ці шматлікія, няхай і высокапаважаныя, госці. І вось „неспадзявайкі” прыдаюць імпрэзам нейкай арыгінальнасці і непаўторнасці. І ніхто напэўна не будзе спрачацца, што такім было святкаванне юбілею чыжоўскага калектыву, а ўсе нават згодныя, што ў 25 вечар лістапада, апрача юбіляраў і запрошаных гасцей — певуноў (і непевуноў), адным з галоўных герояў былі „неспадзявайкі”.

Першай, даволі прыкрай, як і як найбольш нежаданай, была аварыя, у выніку якой амаль на самым пачатку святочнай вечарыны пагасла святло. Па такой прычыне, як вядома, не адна імпрэза правалілася, але ў Чыжах і наогул на вёсцы, людзі ўжо абжыліся з такімі фокусамі і ніхто нават не падумаў пакінуць залу, якую ахінула цемра. Тым больш, што са сцэны лілася беларуская песня, а пазбаўленыя гукаўзмацняльнай апаратуры калектывы спявалі не менш чароўна, чымсьці пры яе дапамозе. Дарэчы, ніхто і не сумняваўся ў тым, што такі стан зацягнецца ўсяго некалькі хвілін. От, проста, заіскрылася недзе паміж Чыжамі і Кленікамі, то і пагасла, думалі людзі. Гэткае падмацоўваў факт, што ў суседняй вёсцы якраз выступаў чамусьці нейкі ўкраінскі калектыў і магло гэта давесці да г.зв. згушчэння атмасферы, чаго, у сваю чаргу, не перанеслі электраправады. Чаму акурат яны? Невядома. Чаму, аднак, ад гэтага вымушаны былі цярпець акурат беларускія: мерапрыемства, культура і насельніцтва? Вядома, тутэйшы народ настолькі ж гасцінны і прывыклы да ўсялякіх складанасцей, што нават на нікога за гэта не злуе, а яшчэ і падзякаваць за такое сумее. Так што спявалі, слухалі і верылі, што неяк там будзе. Надзейнай была мітусня гаспадароў гміны, якія, вядома, от так сабе не бегалі туды-сюды, а рабілі ўсё, каб можна было не толькі слухаць юбіляраў (і гасцей), але і бачыць іх у поўнай красе. А ўжо калі з месца падняўся войт суседняй гміны Орля, усім, нават малаверам, стала ясна, што цераз хвіліну блісне святло. Вядома, што Чыжы падпадаюць пад арлянскі энергетычны ўчастак і інтэрвенцыя войта была як найбольш абгрунтаванай. І зрабілася святлей... Працаўнікі чыжоўскай культуры прынеслі пакет знічоў, а хросны бацька калектыву — газнік. Гэтым яны ўвялі незвычайны настрой і здавалася, што ўсё пакоціцца ўжо спраўна, няхай і без электрычнасці. Аднак так не сталася. Дым з пятнаццаці надмагільных лямпак невыносна надакучыў, што нават пагашэнне амаль усіх, адкрыццё вокнаў і ўваскрашэнне скразняку не памагло і прымусіла дзейнічаць яшчэ вышэй пастаўленых гасцей. Менавіта і ім зрабілася млосна ад паху воску, хаця і дасталася (ці не найбольш) калектывам. І так, калі залу, на некалькі хвілін, пакінулі паслы ў Сейм, слухачам стала ясна, што непрыемнай „неспадзявайкай” займаюцца не толькі электраманцёры з Орлі, але і Варшава не застаецца да яе абыякавай. А калі святло і далей нават не мільганула, многія людзі, у думках, а нават уголас, хаця паціхусеньку, пачалі дакараць прысутнага на свяце віцэ-консула Рэспублікі Беларусь за нерухавасць і раўнадушнасць да сітуацыі. Тутака, у Чыжах, амаль усе верылі (і вераць), што калі б ён падняў цела, а пасля тэлефонную трубку і пазваніў каму трэба ў Мінск, святло знайшлося б — яго прынеслі б у пушачцы з-пад запалак. На жаль, Усемагутны з Мінска так і нічога не даведаўся аб прыкрым сюрпрызе. І ў такі спосаб усе спадзяванні засталіся на баку (і руках) манцёраў, а яны, пэўна крыху перапалоханыя перспектывай візіту на дываніку ў свайго войта, мусілі завіхацца някепска, калі выправілі аварыю яшчэ да заканчэння ўрачыстасці і пры нагодзе выявілі, што яе прычынаю быў сабатаж. Вось так, закідаючы ланцуг на электралінію, нехта хацеў дадаць арыгінальнасці святкаванню.

Была ў Чыжах і іншага характару „неспадзявайка”, без якой цяжка ўявіць, як закончылася б і ці наогул працягвалася б (пасля чыну злачынцы-жартаўніка) мерапрыемства. Гэтым сюрпрызам, а дакладней гаворачы асобай была сп. Валянціна Ласкевіч. Невядома, ці працаўнікі гміннай управы прадчувалі нейкую бяду, ці проста так сабе (у публіцы) зафундзілі так высока- і агульнапаважаную канферанс’е. Трэба было пабываць сярод публікі і паслухаць яе выказванняў наконт вышэйзгаданай, каб уцяміць сабе трапнасць такога рашэння. Дарэчы, спадарыню Ласкевіч заўсёды ў Чыжах, а таксама ў іншых вёсках, прымаюць вельмі энтузіястычна, а яе выступленням спадарожнічаюць ахі-охі і іншыя каментарыі. Асаблівай папулярнасцю карыстаецца яна чамусьці ў жанчын, хаця і сярод мужчын ёсць многа паклоннікаў яе голасу. Усе яны проста співаюць з яе вуснаў кожнае ласкавае слоўца, у захапленні слухаюць душэўнага канферансу і пасля амаль кожнага сказа гатовы горача пляскаць у далоні. Яе чароўная ўсмешка, прывабная постаць, мілагучнасць, красамоўныя здольнасці і ў гэты вечар, у цяжкія хвіліны цемрадзі, падзейнічалі як бальзам. Памаглі таксама, як заўсёды, забыць пра штодзённыя, сялянскія турботы і пасябраваць з беларускай культурай, песняй і літаратурнай мовай. А ўжо ў апагей узбуджанасці ўводзіла публіку вымаўленне сп. Ласкевіч слова „цудоўны” (з усялякімі яго разнавіднасцямі). Яна быццам бы і ведала пра гэта і паўтарала чарадзейнае слова каля сотні разоў. Ставіла ў ім націск у некалькіх месцах, незвычайна зацягвала некаторыя склады і неяк па-акцёрску, а нават эратычна, складаліся пры гэтым яе вусны. Такім чынам, з дапамогай фэставага вопыту, яна сыграла не абы-якую ролю ў чыжоўскім свяце, надала яму нейкага бляску і, супольна са спевакамі, давяла яго да шчаслівага заканчэння. Хіба не зманю, калі скажу, што асоба сп. В. Ласкевіч побач з былым прэм’ерміністрам і двума прэзідэнтамі (вядома якімі) ёсць самай папулярнай у гэтай мясцовасці.

Вось якія крайнія, зусім розныя „неспадзявайкі”, падрыхтавалі людзі людзям у назаўсёды левых Чыжах. Жах!

**Яўген Бялькевіч**

# Дом міласэрнасці

Пастановай Гарадской рады ў Гайнаўцы ад 26 мая 1997 года праваслаўным гайнаўскім прыходам была перададзена палова плошчы старой бальніцы (каля 6 000 м$^2$), што па вуліцы 3-га Мая, разам з будынкамі. Другая палова плошчы з гаспадарчымі будынкамі перайшла ва ўладанне каталіцкага прыхода. Рашэннем мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Васілія, па ініцыятыве гайнаўскіх прыхаджан, 3 ліпеня 1997 года быў створаны Дом міласэрнасці ў парафіі Святой Тройцы. Размешчаны ён будзе ў найбольшым, колішнім гінекалагічна-радзільным, будынку. Праваслаўны прыход прыняў на сябе абавязак адрамантаваць будынак і прыстасаваць яго для патрэб старэйшых, самотных людзей, якія маглі б там правесці апошнія гады свайго жыцця.

Ужо з вуліцы відаць новы бляшаны дах. Старэйшы чалавек перакладае нейкія жэрдкі. Усярэдзіне чысценькія адмаляваныя пакойчыкі, калідоры і святліца. Двое рабочых рамантуюць яшчэ купальню і прыбіральню.

— Зрабілі мы капітальны рамонт цэлага будынка, — паясняе айцец Міхаіл Нігярэвіч, настаяцель прыхода, які паказвае мне будынак і рэзультаты працы. — Адрамантавалі мы дах пакрыўшы яго новай бляхай і памянялі вадасцёкавыя трубы. Правялі мы капітальны рамонт вадаправодна-каналізацыйнай сістэмы, цэнтральнага ацяплення, памянялі кацельныя печы, часткова вокны і тынкі. Памалявалі ўсё ўсярэдзіне і вядзем апошнія працы, якія дазволяць адчыніць наш Дом.

Жыхары Гайнаўкі вельмі станоўча ацэньваюць намаганні прыхода. Штораз больш у нас забытых дзядуляў і бабуляў, якія адзінока дажываюць у пусцеючых беларускіх вёсках. Некаторым неабходна дапамога маладых, а часта дзеці пражываюць далёка ў гарадах, наведваючы сваіх бацькоў вельмі рэдка.

— Мы прадбачваем, што Дом міласэрнасці будзе месцам для адзінокіх старэйшых асоб розных веравызнанняў, бо не абмяжоўваемся толькі да праваслаўных, — прадаўжае размову айцец Нігярэвіч. — Плануем прыняць 40 асоб, размяшчаючы іх у адна- і двухмесных пакойчыках, на двух паверхах. У кожным пакойчыку будзе ўмывальнік і па дзве купальні на кожным паверсе.

Пытаю майго суразмоўцу пра колькасць асоб ахвотных ужо прыйсці ў Дом і пра магчымасці для іншых жадаючых паглядзець памяшканні і выrашыць пра сваю будучыню.

— Ужо паступіла больш прашэнняў чым месцаў, бо жадае прыйсці да нас 50 асоб, а месцаў толькі 40, — гаворыць настаяцель. — Але мы яшчэ не вырашылі каго прымем. Гэта будзе вырашаць спецыяльная камісія і можна яшчэ падаваць прашэнні ў канцылярыю прыхода Святой Тройцы ў Гайнаўцы. Найбольш сумнае тое, што некаторыя дзеці маглі б самі заняцца бацькамі, але хочуць выпіхнуць іх з дому. Прыйшла адна кабета, з плачам, прасіць у нас месца. Гаварыла, што пабудавала дзецям дом, а калі пражывала ў блоку, дзеці падвялі яе і нагаварылі, каб і тое перапісала сваім родным. Цяпер не мае дзе падзецца. Ёсць і такі выпадак, калі дзеці хочуць запісаць маму, а яна не згаджаецца.

Старэйшых вясковых людзей цяжка перасяліць у іншае месца. Яны неахвотна пераязджаюць у другую вёску, не гаворачы ўжо пра горад. Калі змогуць хадзіць, ахвотна дажывалі б у сваёй вёсцы, на сваім загончыку, у сваёй хатцы. Аднак, часта спасцігаюць іх хваробы, якія не дазваляюць самастойна дбаць пра сябе. Пытаю, ці будзе апека над цяжка хворымі.

— Кожная апека патрабуе фінансавых сродкаў, а ўжо цяпер не хапае нам грошай дакончыць рамонт, — заяўляе айцец Міхаіл. — Прадбачваем прыняць толькі тры медсёстры, а адзін лекар-пенсіянер згадзіўся памагаць бясплатна. Гэты сціплы персанал не зможа памагчы цяжка хворым. Такія асобы могуць прыйсці да нас, але павінны мець сваю апеку.

Згодна з законам, у дамах грамадскай апекі кожны жыхар аддае 70% сваёй пенсіі. Ці хопіць гэтых грошай на ўтрыманне Дома?

— Дзяржаўныя дамы апекі маюць вялікае дафінансаванне. Пенсіі нашых жыхароў невялікія ж. Напэўна не хопіць іх на ўтрыманне нашага Дома, — звяртае ўвагу ўпаўнаважаны па справах арганізацыі міласэрнасці. — Ствараючы месцы для старэйшых асоб сутыкнуўся я з вельмі вялікім беспрацоўем на Гайнаўшчыне. Прыйшло да мяне каля 500 асоб, якія шукаюць працу, а будзем патрабаваць прыблізна 6 асоб. Іншыя будуць працаваць бясплатна. Найбольш было медсёстраў, якія, каб не страціць прафесійных кваліфікацый, вымушаны распачаць працу на працягу 5 гадоў ад заканчэння навукі. Інакш прыйдзецца ім здаваць паўторныя экзамены. Дагэтуль грошы на рамонт ішлі з нашай парафіі, да якіх дакладалі мы ахвяраванні прыватных асоб, але гэтага, на жаль, не хапае. Звяртаюся з заклікам да самаўрадаў, прадпрыемстваў, арганізацый, спонсараў, бізнесменаў і ўсіх асоб памагчы нашаму Дому міласэрнасці. Кожны дар будзе нам вельмі вартасным, а вашую шчодрасць назаўсёды захаваем у нашых сэрцах. Ахвяраванні просім дасылаць на рахунак:

**PKO Hajnówka 10201358-6536-270-1 „Дом міласэрнасці”.**

Парафія рашылася на міласэрны крок у бок найбольш патрабуючых, выручаючы не толькі самаўрад Гайнаўкі, але і іншыя гміны Гайнаўшчыны ці Бельшчыны.

**Аляксей Мароз**

„Малыя айчыны" — шанц нашай будучыні

# На прыкладзе Нараўкі...

Пра „малыя айчыны" і іх ролю ў нашай „еўрапеізацыі" пішу не першы раз. Карацей гаворачы, усё зводзіцца да таго, што там, „у Еўропе", найбольш цэніцца якраз тое, чаго мы часта недацэньваем, больш таго, саромімся, а чым няраз (свядома ці несвядома) нават пагарджаем. Маю тут на думцы месца свайго нараджэння, вясковае асяроддзе, родную мову, мясцовыя народныя традыцыі.

У лістападзе ў беластоцкіх „Сподках", сядзібе Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, адбыўся семінар, а галоўнай мэтай яго быў абмен вопытам, як культурная дзейнасць выглядае на месцы, у гмінах, ды дыскусія на тэму: „«Малыя айчыны» як шанц развіцця культуры пры самакіраванні".

Семінар быў непасрэдна адрасаваны войтам, бурмістрам гмін, дырэктарам дамоў і асяродкаў культуры, прадстаўнікам самакіравання і камісіі культуры, рэгіянальных таварыстваў.

На семінары гаварылася, здаецца, пра ўсё, што можа датычыцца культуры ў гміне: пра ролю самаўправаў у стварэнні гэтай культуры (Б. Пахольская, В. Млынчык), пра грамадскі культурны рух як сілу мясцовай культуры (К. Дэркоўскі), пра народных творцаў як крыніцу народных традыцый і культурнага аблічча рэгёна, пра вопыт у галіне культурнай дзейнасці ў карысць „малых айчын" на тэрыторыі цэлай краіны (Э. Старчэўская — старшыня Таварыства аніматараў культуры ў Варшаве), пра ролю раённага друку (К. Канэцкая), а таксама — згодна з духам часу — пра месца Касцёла ў стварэнні культуры (кс. праф. Ч. Гладчук, кс. Г. Цярэшка).

Мы ў Еўропе, сцвярджаў дырэктар Аддзела культуры К. Дэркоўскі, але калі хочам жыць у сімбіёзе з ёю, дык захоўваем сваю тоеснасць і патрабуем пашаны ад членаў Еўрапейскага Саюза да сваёй мовы, бацькаўшчыны, да нас.

Хочацца верыць, што гэтыя словы дырэктара датычыліся не толькі польскай нацыянальнасці, але і беларускай, прадстаўніком якой была, бадай, ці не большая частка прысутных у зале пасяджэння.

У гмінах акапаліся, казаў далей К. Дэркоўскі. Неўласціва разумеюць паняцце самаўправы. Мы ўсё, маўляў, ведаем найлепш, хай ніхто да нас не прыязджае. Вось пабудуем водаправод, дарогі — інфраструктуру, тады будзем будаваць культуру. Але здарова разумелае самакіраванне — вялікая мясцовая сіла, якая складаецца не толькі з працаўнікоў культуры, але і з прадстаўнікоў розных галін мясцовага жыцця ўключна з Касцёлам і Царквою.

На прыкладзе Нараўкі, Чорнай-Беластоцкай і Заблудава на семінары было паказана, як ажыццяўляецца ідэя „малых айчын".

Зразумела, што Нараўка зацікавіла мяне найбольш. Адтуль на семінар прыехала пяць асоб: войт Мікалай Павільч, старшыня Рады гміны Яўген Валкавыцкі, дырэктар ГОКа Андрэй Скепка, Ліля Тарасевіч — старшыня камісіі культуры пры Радзе гміны, ды інструктар ГОКа Кацярына Бяляўская.

Нараўчанская гміна гэта гміна паграніччча: культурнага, нацыянальнага і рэлігійнага. А паграніччча для дзеяча культуры — шырокае поле для працы. У гміне задбалі перш за ўсё пра базу. У Нараўцы ёсць новы ГОК, дзе сустракаюцца ўсе пакаленні (ёсць там зала, бібліятэка, бар і г.д.), ёсць новая святліца ў Ляўкове, а ў Семяноўцы — у святліцы праведзены капітальны рамонт.

Пра гэта ўсё інфармуе войт гміны. Хочам працягваць тут цыклічныя мерапрыемствы, дадае ён, цяпер ёсць дзве пастаянныя імпрэзы: фэстыны, якія мы арганізуем супольна з Беларускім таварыствам, ды турніры гмін — з Гарадком і Міхаловам. Сёлета ў Нараўцы адбыўся сімпозіум „Народная музыка сярэдняўсходняй Еўропы — Беласточчына — каляндарныя песні". Месца ёсць, бо пасярэдзіне Нараўкі красуецца нядаўна пабудаваны амфітэатр, дзе выступаюць розныя калектывы. Публіка, якая збіраецца тут на мерапрыемствах, найлепш сведчыць пра іх папулярнасць.

Тут не чакаюць, пакуль пабудуецца інфраструктура, а ўсе разам бяруцца за працу на ніве культуры. Нездарма ж гміна атрымала бронзавую статуэтку за дасягненні ў конкурсе „Samorządność — tak, samotność — nie".

Старшыня рады гміны падкрэслівае добрае супрацоўніцтва ГОКа са школай. Прадметам іх гонару з'яўляецца дзіцячы калектыў „Duszki z puszki". Ёсць яшчэ ў гміне калектывы „Цаглінкі", „Лучына". Нежк тут годзяцца і спяваюць разам праваслаўныя, каталікі, баптысты.

У нялэўныя гады, заўважае дырэктар ГОКа, ніводная ўстанова не была ў нас ліквідавана, а яшчэ дайшоў новы амфітэатр. Цяжка адказаць Андрэю Скепку, ці ўдзельнічаюць у іх культурным жыцці духоўныя як дэцыдэнты, ці была нейкая дапамога з іх боку. Пакуль што, кажа, не было патрэбы, але вось на Ваяводскі агляд дзіцячай песні, які адбываўся тут у маі, дзяцей з Чорнай-Беластоцкай, якія не мелі чым даехаць, прывёз на сваёй машыне ксёндз, і нават яны выйгралі.

Бадай, найбольшую дыскусію на семінары выклікаў даклад Крысціны Канэцкай: „Роля раённага друку ў культуратворчых працэсах". Сёння без раённага друку, сцвердзіла журналістка, гміне цяжка функцыянаваць. Людзям патрэбныя мясцовыя інфармацыі, дзякуючы якім яны маглі б даведацца пра сваіх знаёмых, суседзяў. Нягледзячы на радыё і тэлевізію, мясцовы друк усё пашыраецца. Тут трэба пісаць культурна, каб нікога не абражаць.

Разгарнулася дыскусія. Выступалі Кшыштаф Асташэўскі, які рэдагуе „Rozmaitości" ў Чорнай-Беластоцкай, Андрэй Скепка з Нараўкі, дзе выдаецца газета „Nad Narewką", Яўгенія Казімерук з Кляшчэляў, рэдактар мясцовай газеты „Co słychać w gminie", ды іншыя. Справа праўды ў газеце — найбольш важная, а журналісты „Нівы", сказала яна мне, не заўсёды трапляюць на верагодных інфарматараў у вёсках.

Міла нам, што нас чытаюць. Прапануем супрацоўнічаць! Усе лісты мы ахвотна друкуем.

І столькі больш-менш з гэтага вельмі патрэбнага семінара.

**Ада Чачуга**

# Новыя вершы

**Міра Лукша**

* * *

краявід канчаецца
канцом свету
пра які гавораць
бабулі на лаўках
на ўсходняй сцяне
плачу

**Віктар Шніп**

## Жывём

Жывём... А можа гэта ўсё нам
толькі сніцца,
Што мы жывём у гэтых цесных
камяніцах,
З якіх, нібыта вязні, мы глядзім
на свет?

Спяшаемся, але спазняемся
заўсёды,
Стамляемся ад чэргаў, ад дурной
работы,
Не могучы без кавы і без цыгарэт.

І хочацца нам вечна свет свой
перайначыць,
І хочацца за горад выехаць
і ўбачыць,
Як сонца праз туман усходзіць
над жніўнём.

Спяшаемся, ізноў спазняемся,
гаруем,
І ўжо іконы ў храмах, грэшныя,
цалуем...
Жывём... Няўжо мы гэта
ўсё яшчэ жывём?

**Барыс Руско**

## Прадзіранне

Загублены сэнс,
хоць тузін слоў —
у сказе коска.
Кульгае свет,
кульгае золак,
і дзень
і ноч
і дарога.
Бяздомны лес,
Як нітка тонкі,
ды і ўсё жыццё
без прыпынку.

## Такі малы

Матыль крыламі
засланіў сонца.
Не бачу кветак.

**Уладзімір Саўчук**

## Просьба

Дачка мілая мая — просіць
шчыра маці
дзе Ты сумленне загубіла
дык пайду шукаці.

Эх жыццё — ты блуднае жыццё
хто паказаў табе дарогу
каму цяпер душа баліць
падкажы — прабачу — ей Богу!

Ні з гэтага холаду хлеб
будзеш есці
ні з гэтай малітвы човен граху
трэба астыць — падумаць —
прынесці
выкінуць гора ў мяшок пастуху
няхай пастух на цаліне
рассее гора за гарою
не знаючы аб маёй віне.

На мой розум

# Ідзе ўсё так, як трэба

— То што там, дзядзьку Ліяш, у палітыцы чуваць?

— А то чуваць, што ў каго больш, той і пан. Як у нужніку — кожны сядзіць на сваёй. Чыя ўлада, таго і палітыка.

— Ну, але ўлада памянялася.

— Каб магла памяняцца, то трэба, каб перш яна была. А тут, проста, выйграў той, хто хацеў. Гэта не ўлада памянялася, а толькі адны другіх адагналі ад карыта. Вось і ўся мудрасць. А потым — чый панадворак, таго і парадкі. І відаць у вашым беластоцкім УОПе. Палкоўніка з вопытам на маладога паручніка замянілі. Раней гаварылі, што па прычыне хваробы, або па сваёй просьбе, а зараз нічога не гавораць. Як беспрацоўе, то беспрацоўе. Не падабаецца, ды за каўнер і вон. На тваё месца дзесяць знайду такіх, як хачу.

— Але паводле інфармацыі з гары здавалася б, што з працаю палепшаецца і колькасць беспрацоўных зменшаецца.

— А гэта ўсё, каб прыпадабацца і вырасці ў вачах, калі не сваіх, то чужых. Я ж табе кажу — чый панадворак, таго і парадкі. Ці я ведаю, што там у Варшаве ці ў Любліне, скажам? Але па суседу бачу. Так яшчэ шчасліва склалася, што вывучыў хлопца пры „камухах" і плаціць не мусіў. Праўда, напачатку працаваў, а потым выкінулі, на так званай хвалі рэарганізацыі. Год куранёўку атрымоўваў, а потым хаця зубы на градку закладвай. Трэці год працы знайсці не можа. Пойдзе, падпіша ў ведамства працы ў назначаны дзень табель яўкі і вяртаецца з нічым. Добра, што бацькі гаспадарку маюць. Прынамсі з голадам не знаёміцца, ну і кватэру старыя ў горадзе аплачваюць. Дык чапіліся аднойчы ў тым жа ведамстве з чаго ён жыве і за што кватэру сваю ўтрымоўвае, бо з запоўненай ім анкеты вынікае, што такую мае. „Бацькі!" — гаворыць. А тыя: „То вам не сорамна ад старых бацькоў браць?" — „Дапамагаю ім у гаспадарцы", — адказаў ён. А тыя зноў сваё: „Значыць, яны вам плацяць, а вы гэта затойваеце ад нас. Не ведаем, што з вамі зробім. Хай вырашае аб гэтым кіраўніцтва". Той раззлаваўся і напісаў артыкул у газету. А як жа, надрукавалі, ганарар заплацілі. Яшчэ нават спыталі пра адрас фінансавага ведамства. Ну, як тут, брат, не выявіш, што зарабіў тыя 20 злотых. Чэсна зазначыў, падпісваючы сваю прысутнасць. І што выйшла? А тое, што аказалася, што ён зусім не такі ўжо і беспрацоўны. Во такім спосабам і павысіўся паказчык занятасці насельніцтва.

— Але з працаю сапраўды цяжка.

— А я ж не гавару, што лёгка, калі на Юравецкай у Беластоку двух жабракоў пабіліся. І то так, што адзін аднаму кіем руку перабіў. Рэвір пры Юравецкай належыў тром. Адзін сядзеў пры ўездзе на Юравецкую ад Сянкевіча, другі ля рэстарана „Гродна" першага пільнаваў, а трэці каля мясной крамы ля самага рынчака. І раптам чужы паявіўся. Дзень яшчэ прамаўчалі, на другі далікатна звярнулі ўвагу, што, моў, не пхайся паміж гарэлку і закуску, а трэцяга дня адлупцавалі і казалі ісці вон з чужога.

— Аж так?

— А ты што думаў? А каб табе хтосьці ў агарод твой улез ды насвінячыў, то што б ты зрабіў, га?

— Ну, дык да чаго мы хілімся? Куды мы ідзем? Што з намі будзе?

— На мой розум усё правідлова. Будзе тое, што будзе. Мой татуль расказваў мне такі анекдот:

„На жыдоўскім цвінтары ў Станіславове сустрэліся два жабракі.

— Віншуй мяне! Дачку замуж выдаю!

— Хай шчасце дасць табе Бог! А за каго?

— За Сруліка...

— Сруліка.. Сруліка... А, гэта той з бяльмом на левым воку. Добры зяць будзе. А што ты ў пасагу даў?

— Ой, не пытай! Выдаткаваўся я, то выдаткаваўся. Цэлую вуліцу Казімежоўскую і Лялевеля аддаў".

Значыць, не прывыкаць.

**Міхась Шаховіч**

# Папраўка

У 49 нумары „Нівы" ад 7 снежня 1997 года ў артыкуле Аляксея Мароза „Юбілейныя святкаванні" была дапушчана памылка. Апісваючы юбілей пятнаццацігоддзя калектыву песні Гайнаўскага дома культуры аўтар напісаў, што ўрачыстасць сваёй прысутнасцю ўдастоіў генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалай Крэчка, калі ў сапраўднасці госцем мерапрыемства быў віцэ-консул Павел Латушка. Паважаных дыпламатаў і чытачоў сардэчна перапрашаем.

Рэдакцыя

# Вада будзе чыстая

Сёлета абнавілі вадасховішча ў Саколцы. Дзяржаўны ваяводскі санітарны інспектар ад даўжэйшага ўжо часу не дазваляў карыстацца штучным вадаёмам, які ў горадзе называюць возерам. Мае ён дваццацігектарную плошчу. Вадасховішча патрабавала ачышчэння ды добраўпарадкавання.

Аднаўленне ўжо закончылі. З дна выбралі даволі тоўсты слой глею (мулу), уфармавалі берагі, добраўпарадкавалі адхоны (скарпы). Астанецца яшчэ пабудаваць памосты. Ад пачатку восені пачалі напускаць ваду так, каб вясною 1998 года перадаць вадасховішча ў карыстанне любіцелям плавання ды аматарам водных спортаў. Гарадскія ўлады, якія вядуць гэтую інвестыцыю, запланавалі таксама завесці рыбагадоўлю.

(яц)

# Дэмаграфічныя цікавінкі

У гміне Крынкі пражывае больш жанчын чымсьці мужчын. Гэта свайго роду незвычайнасць, паколькі як правіла ў вёсках пражывае больш мужчын.

Найбольшую перавагу маюць мужчыны ў гміне Кузніца-Беластоцкая. На 100 мужчын прыпадае там толькі 93 жанчыны.

Вырашальную перавагу жанчыны маюць затое ў горадзе Саколка. На 100 мужчын прыпадае 107 жанчын.

На працягу апошніх чатырох гадоў у гмінах Новы Двор і Сухаволя радзілася больш дзяўчынак чымсьці хлопчыкаў. Гэтыя апошнія пераважалі ў тым часе ў Шудзялаўскай, Сідранскай, Кузніцкай, Крынкаўскай, Карыцінскай, Сакольскай і Янаўскай гмінах.

У дзесяці гмінах у паўночнай частцы Беластоцкага ваяводства пражывае пятнаццаць чалавек, якія скончылі 100 гадоў. Найбольш даўгавечнымі з'яўляюцца жыхары Сухавольскай гміны. Некалькі з іх мае каля 110 гадоў.

(яц)

# Хто дапаможа вясковым пенсіянерам?

З 1 студзеня 1998 года павышаюцца цэны энергіі, цяпла, у выніку чаго падаражэюць вугаль, дрэва і астатнія тавары, бо ўся вытворчасць карыстаецца энерганосьбітамі. Урад прэм'ер-міністра Бузка заяўляе, што будзе аказвацца дапамога бедным сем'ям. Гэта тычыцца гараджан, якія карыстаюцца цяплом дзяржаўных ацяпляльных прадпрыемстваў. Ніхто да гэтай пары не заікнуўся як дапамагчы сялянам і пенсіянерам, якія дастаюць 300 зл. пенсіі і якім цяжка на гэтыя грошы выжыць. Вядома, што па вёсках многія не маюць вады з водаправода, а пра цёплую ваду нават няма што і гаварыць. Сяляне самі купляюць вугаль або дровы, каб абагрэць сваю кватэру і нагрэць вады для сябе і дабытку. Ад цяперашняга ўрада ні ад паслоў я не пачуў ніводнага слова аб кампенсацыі вяскоўцам. Толькі міністр сельскай гаспадаркі паабяцаў страйкуючым у Варшаве сялянам, што ў 1998 годзе не будуць павышаны пенсіённыя ўзносы. Папярэдні ўрад мала займаўся сялянамі, а цяперашні ўвогуле пра вёску не ўспамінае. Толькі тады, калі заходнія краіны адмовіліся браць ад нас малако і малочныя прадукты, улада крышку падумала і загаварыла.

Варта, каб улады сур'ёзна падумалі пра сялян і вясковых пенсіянераў і дапамаглі ім у такой ступені, як абяцаюць дапамагчы жыхарам гарадоў.

Мікалай Лук'янюк

# Што край, то і абычай...

Многія з нас яшчэ вераць у забабоны. Калі чорны кот перабяжыць нам дарогу, тады можам спадзявацца толькі дрэннага: сустрэне нас няшчасце, альбо ўжо сама менш нейкая непрыемнасць і то неўзабаве. Тое самае чакае нас, калі перабяжыць нам дарогу заяц, але з правага на левы бок. Калі наадварот, дык такога факта можна не браць пад увагу — усё будзе нармальна. Верыць у гэта, ці не верыць?

Дзень 13 кастрычніка лічаць нешчаслівым амаль ва ўсёй Еўропе, за выключэннем Італіі, дзе прыносіць ён шчасце. А які дзень прыносіць няўдачу? Пятніца 17-га. На Кіпры і ў Грэцыі трэба вельмі апасацца ў аўторак 13-га. У гэты дзень лепш не выязджаць у падарожжа і нічога асабліва важнага не вырашаць. На поўдні Еўропы нешчаслівыя дні гэта аўторкі і пятніцы.

Дзень 8 студзеня ў некаторых грэчаскіх вёсках з'яўляецца святам жанчын. У гэты дзень мужчыны займаюцца пры кухонных плітах, вараць страву, прыбіраюць. У Люксембургу жанчынам усё можна на працягу трох апошніх дзён масленіцы (астаткаў). У Ісландыі 29 лютага жанчынам дазваляецца рабіць шлюбную прапанову мужчынам, якія тэарэтычна не могуць адмовіць. Калі брыдчэйшы пол намервацца даць адмоўны адказ, дык яго прадстаўнік павінен купіць той жанчыне падарунак і то не абы-які, а за вялікія грошы. У Францыі 1 мая наведваць знаёмых можна толькі з ландышам (канваліяй).

Многія звычаі звязаны з Новым годам. У Італіі жанчынам прыносяць у падарунак чырвоныя майткі. У навагоднюю поўнач у Францыі людзі цалуюцца пад амялой. У Аўстрыі танцуюць вальс. На Кіпры трэба памятаць, каб чхнуць, бо гэта гарантуе, што ўвесь Новы год будзе шчаслівы... У Аўстрыі, Германіі і ў Швейцарыі плавяць у лыжцы свінец, а пасля пералiваюць яго ў халодную ваду. Форма застылага металу прадказвала ці надыходзячы год будзе ўдачны.

(а–ця)

# Шкада стаўба

У вёсцы Бялкі, што ў гміне Нарва, вулічнае асвятленне, па загаду гмінных улад, гарыць з вечара да 11 гадзіны ночы і з 4 да 6 раніцы. Усё было б добра, каб не тая лямпачка, якая на пачатку вёскі не гарыць, а толькі ледзь блішчыць. Тады бяру я жалязяку вагой 1,69 кг і стукаю ёю ў стоўб, часам раз а часам дзесяць разоў, пакуль лямпачка не загарыцца ярчэй. Такое паўтараецца штовечар. Раніцай я ўжо не стукаю ў стоўб, бо пазней устаю. У нас жалезабетонныя стаўбы і калі па іх стукаць, то ад іх адскакваюць асколкі. Электраманцёры павінны хоць два разы ў год кансерваваць вулічнае асвятленне. Але яны гэтым не цікавяцца і толькі пільнуюць, каб ад гміны грошы за асвятленне вуліц узяць, а тэхнічны стан электраўстаноўкі ім да лямпачкі (на жаль, не да той, што не свеціцца). Цьмяная лямпачка таксама расходуе электраэнергію і то ў большай колькасці, чым акуратная. Варта, каб энергетычнае прадпрыемства ў Бельску-Падляшскім сур'ёзна паставілася да гэтай справы, бо калі мне цэлую зіму прыйдзецца стукаць у стоўб, вынікнуць большыя кошты, а мо і прыйдзецца ім судзіцца са мною за знішчэнне стаўба.

Мікалай Лук'янюк

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

[5 ☞ працяг]

дэнцыі Яўген Хлябцэвіч заракамендаваў сябе як аўтар, які дасканала валодае публіцыстычным каларытным стылем.

У трэцім нумары „Нашай нівы" паявілася новая інфармацыя таго ж Яўгена Хлябцэвіча аб вёсцы Кленікі. Гаварылася ў ёй аб новым валасным сходзе, які быў праведзены 12 студзеня 1907 года. Аўтар вярнуўся ў ёй да ўжо прадстаўленых спраў, звязаных з заробкамі мясцовых чыноўнікаў. Наколькі аднак — у папярэдняй — ужо ахарактарызаванай публікацыі, не называўся па прозвішчы ніводзін з мясцовых селянін, то ў наступным артыкуле Хлябцэвіч называе тых жыхароў, якія найбольш стойка змагаліся за сялянскія інтарэсы. Публікацыя заканчвалася красамоўным вывадам:

„Найбольш ваяваў проці валаснога начальства адважны Піліп з Падрэчан. Гаварыў ён аб цемноці мужыцкай, аб тым як за келішак гарэлкі запрадаюцца свайму жэ суседу, выбіраючы на п'яную галаву нягоднага чалавека на старшыну, пабольшваючы для яго жалаванне і дзеля гэтага плацяць большы мірскі збор. Гутарыў і аб задзіранні старшынаўскіх насоў і што начальства такое нягоднае трэба гнаць вон як найхутчэй. Мужыкі на гэтым жа сходзе хацелі Піліпа свайго зрабіць выбаршчыком да Гасударственнай Думы, але ён адрокся, бо быў няграматны. Тады выбралі 2 мужыкоў: 1-га з вёскі Ступнікі Грыгора Хведарука, што на ўсіх сходах цягнуў за сваіх — за мужыкоў і 2-га з Піліпавай вёскі — Падрэчан, такога ж смелага як і Піліп — мужыка Брука".

У гэтым жа нумары „Нашай нівы" была змешчана інфармацыя з Новага Беразова, дзе мужыкі пастанавілі ліквідаваць казённую водачную лаўку.

Алесь Барскі

# Заслужаным — медаль!

Рада гміны Белавежа на адным са сваіх восеньскіх пасяджэнняў прыняла пастанову, згодна з якой тым людзям, якія асабліва шмат працы адвялі развіццю ці папулярызацыі гэтай мясцовасці, будзе прысвойвацца знак „Заслужаны для Белавежы". Дзеля гэтай мэты пры Радзе створаны капітул. Кандыдатуры прапанаваць могуць установы, прадпрыемствы, таварыствы а таксама паасобныя грамадзяне. Вядома, што ўсе тыя прапановы мусяць адпаведна матываваца.

Ініцыятыва белавежскіх радных паявілася ў сувязі са святкаваннем 400-годдзя славутай пушчанскай мясцовасці.

Пётр Байко

# Клетка пад Трыма каронамі

У 49-м н-ры „Нівы" змешчана была кароткая занатоўка, што шведскае пасольства ўмешваецца ва ўнутраныя справы нашага найяснейшага горада, дамагаючыся фешэнебельнага жытла для беластоцкіх мядзведзяў і Ільвоў. Мала гэта ім аўтарства дынаміту і сексуальнай свабоды, што яшчэ дамагаюцца распусты і для ўсялякай *твари*?! Бо згаданая вылазка ў наш Беласток, гэта толькі пік айсберга! Вось на працягу апошніх трох гадоў шведскае Міністэрства сельскай гаспадаркі распрацавала спецыяльны закон па ахове правоў дробнай дамашняй жывёлы. У выніку адмысловых даследаванняў былі ўстаноўлены аптымальныя варункі гадоўлі папугаяў, рыб, мышэй і апошняе дробязі, якія сталі асноваю новага шведскага закона, які ўступае ў сілу ўжо ад 1 студзеня 1998 года. Згодна гэтаму закону, кожная шведская мыш атрымоўвае права на мінімальную жыллёвую плошчу вялічынёю ў 0,09 квадратнага метра клеткі; пацукам і хамякам належыцца ўдвая больш. А трусы і марскія свінкі будуць атрымоўваць клеткі згодна паказанням вагі: калі да паловы кілаграма — тады і палову квадратнага метра, а калі больш — тады сама менш цэлы квадратны метр мусіць гаспадар адвесці кожнаму са сваіх пражэрлівых любімцаў. Новыя правілы не толькі выводзяць на прастору дамашніх грызуноў, але таксама даюць ім права на карыстанне трэнажорамі і цэлаю сістэмай палак і кармушак. Стваральнікі новага закона паклапаціліся таксама і пра духоўнае жыццё папугаяў і мышэй: нямала параграфаў адводзіцца там і сацыяльным кантактам дробнай жывёлы і са сваімі суплеменнікамі, і з ... гаспадарамі! Каб б каму з грамадзян Швецыі прыйшло ў галаву ўхіляцца ад новых абавязкаў, таму прадугледжаны або здаравенны штраф, або зняволенне працягласцю да аднаго года. А паводле шведскіх законаў, каб трапіць на год у турму, трэба здзейсніць або буйную пакражу, або нанесці цяжкую цялесную траўму, або сістэматычна займацца самагонаварэннем.

А каб ужо даць поўную волю распусце, камітэт Рыксдага па мовам нацыянальных меншасцей выступіў з ініцыятывай прызнаць асобы статус фінскай, саамскай і цыганскай мовам у шэрагу камун Лапландыі і сумежных з ёю раёнаў. Хай бы толькі тыя шведскія абармоты напараліся вось на нашых, нават „праваслаўных палякаў", з ініцыятываю нейкага прызнання тутэйшай аўтахтоннай мове... А ў клетку іх — да любімых ім ільвоў і мядзведзяў! Да аднаго года.

(ав)

# Упарадкаваная магіла

У допісе п.з. „Магіла" ў 46-м н-ры „Нівы" пісаў я пра адну запушчаную магілку старых людзей на дубіцкіх могілках. У тым часе, калі мой тэкст чакаў на друк, дачка нябожчыкаў, быццам што прадчуваючы, паставіла прыгожы помнік і жалезную агароджу. Я ёй за гэта вельмі ўдзячны, бо цяпер тая магілка выглядае так, як і большасць другіх. Той мой допіс усё ж такі не зусім страціў актуальнасць, бо на дубіцкіх могілках надалей ёсць яшчэ такія забытыя магілы, на якіх ні крыжа, ні кветак няма, а толькі вецер гуляе і зіма скоўвае холадам. І прыкра, калі яна знаходзіць месца і ў нашых сэрцах.

Мікалай Панфілюк

# Парнасік

### Позняя восень

Адышлі ўжо лета,
восень залатая,
і сумная прырода
усё акружае.

Стала сумна, шэра,
дні пакарацелі,
птушачкі у вырай
даўно адляцелі.

Сонца вельмі рэдка
з-за хмар выглядае
і скупыя промні
на зямлю кідае.

Неба пакрываюць
хмары снегавыя.
Адышлі ад нас ужо
дзянькі залатыя.

А калі снег белы
зямлю пакрывае,
тады так прыгожа
усё выглядае.

Хаты ў белых шапках,
на дрэвах — пушынкі,
казачна прыгожа
прыбраны ялінкі.

І прапала шэрасць.
Снег яе прыкрыў,
цудоўныя вобразы
ў прыродзе стварыў.

**Марыя Манаховіч**

### Наша імперыя

(Гэта чыстая фантазія,
за грош праўды.)
Гляджу і не веру вачам:
Сон гэта ці нейкая чмуць.
Хвіліна, хвіліна, трывай!
Хоць чэрці ў ад забяруць.
Тых скарбаў так многа падрад:
І вочы, і ногі, і торс,
І пара біцэпсаў як сталь.
І знаю: ўсё гэта маё.
Ты ў гэтай дзяржаве — кароль,
А я — каралева твая.
Парламент у нас з дзвюх асоб.
Падданых ніякіх няма.
Калі дэмакратыя ў нас,
То чэрці ўжо ні пры чым.
Хвіліна, хвіліна, трывай!
Спявайма мы шчасцю свой гімн.

**Цётка Мальвіна**, *1992 г.*

### Жыць дасканала

Жыць дасканала —
Кожнага мара.
Але ў якім *напраўленні*?
І мо ў збавенні?
Не, гэта мінаюць
І балі спраўляюць:
Лёгка пажыць
І ваду ўсюды ліць.
Многія паклоны б'юць усюды —
Гэта асобы-маруды.
Асобені дзіўныя,
На від вельмі мірныя.
Ды асцерагацца іх варта,
Гавару я не жартам.
Ці ёсць дасканалыя ў нас? —
Гавару пра сябе і пра вас;
Няма абсалютна!
Жывем у грахах, і душа *мутна.*
Адзін Ісус дасканалы,
Чужыя Яму пустата і *маралы.*
Вучыў Ён і вучыць жыць:
Толькі ў любві, і з усімі дружыць.
Трэба і свае пакуты прайсці
І месца на Небе знайсці.

**Мікалай Панфілюк**

### Адыход у вечнасць

Усе мы адыдзем
У вечную дарогу.
Туды трэба рыхтавацца
І маліцца Богу.
Дай Божа нам сілу
З д'яблам не спаткацца
І ў жыцці вечным
Раем любавацца.
Дай Бог сваіх дзетак
Гэтаму навучыць,
Каб нашы абычаі
Умелі шанаваці.
Каб хаця раз у годзе
Зайшлі вольную хвіліну
Павырываць зелле,
Пасвяціць магілу.
А калі час прыйдзе
На суд вечны стаці,
Тады з мілымі дзеткамі
Поруч будзем стаяці.
Тады ім будзе сорам
Нам у вочы падзівіцца,
Калі ў іх не было часу
Над магілай схіліцца.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Астроне, прыснілася мне вужака. Не ведаю, дзе я знаходзілася — у лесе ці на адкрытай прасторы, але раптам я заўважыла, што каля мяне ляжыць вялізны вуж. Быццам бы не быў ён ядавіты, але быў такі непрыемны, вельмі гадкі. Пэўна, чакае мяне штосьці дрэннае. На працы маю клопаты, шэфы да мяне прыхільныя, сяброўкі — зайздросцяць.

**Эля**

Снілася мне, што я выпаражнілася, ды трыма з паловай велізарнымі кучамі ў форме быццам салідных каўбас! Гляджу і думаю: „Аёйкі! А гэта ж можа саліцёр?!" І праўда, на канцах тых „каўбас" бачу быццам галоўкі.

**Зоська**

Эля! Тут справа ясная. Тая вужака можа абазначаць якраз тое, што ў цябе паявіліся няшчырыя, фальшывыя сябры, ад якіх можаш чакаць у любы момант подласці, абгавораў. Але пакольку была гэта ўсяго вужака, а не ядавітая гадзюка, можна меркаваць, што ўсё на абгаворах і скончыцца. Не змогуць яны табе пашкодзіць канструктыўна. Сяброўкі не занадта любяць, калі начальнікі ўзвышаюць кагосьці больш за іх.

Што датычыцца твайго, Зоська, сну, дык ён не толькі непрыемны (пэўна, і табе было агідна пра яго пісаць), але і абазначае, што ў тваім жыцці здарыцца нешта непрыемнае. Аб гэтым сведчаць тыя кучы, а ўзмацняюць гэта прадчуванне праглядаючыя з тых „каўбас" галоўкі паразіта.

**Астрон**

# Удар ніжэй пояса

Ой, як неверагодна прыемна ўбачыць яшчэ пры жыцці помнік сабе (вядома, не надмагільны!!!) або пазнаёміцца ўласнавочна з одай сабе прысвечанай. Тым больш, што я за такое не плачу ні гадзіннікамі з выгравіраванымі пажаданнямі, ні тэлевізарамі. *Магу толька руку пажаць*, ды і то не вельмі ахвотна, бо больш мне цікава існаваць і дзейнічаць інкогніта.

Але такая ода можа давесці свайго героя калі не зразу ў магілу, то прынамсі да пальпітацый сэрца такіх, што мураваны інфаркт! Адзін з нашых літаратурных бонзаў, убачыўшы доўгі вершападобны твор сабе прысвечаны, складзены Міколам Праведным у хвіліну задуменнасці, у маёй прысутнасці яго чытаючы, то бялеў, то чырванеў, то дух яму займала, то зноў яго выпускаў з шыпеннем! — у такі духоўны стан увяло яго тое хваляванне. Значыць, не цешыўся, як трэба. Пэўна, палічыў наш герой гэты паэтычны твор, як ні глядзі, не вартым яго; тыя пахвалы, пісаныя ад шчырага беларускага сэрца і для *ўмацавання* сэрцаў беларускіх, кранулі зусім не тое што трэба.

Калісь у „Ніве" друкавалася „дошка ганьбы" (маладыя чытачы яе не памятаюць) — з партрэтамі, біяграфіямі, поўным імем, прозвішчам і назвай мясцовасці — злачынцаў, п'яніц, хуліганаў, марнатраўных сыноў, хатніх скандалістаў. Нават і малалеткі туды траплялі. Мяне гэта вельмі ўражвала і трывожыла ды злавала. Праз дзесяцігоддзі я праследзіў лёсы некаторых з „герояў" гэтай рубрыкі, і ведаеце: некаторыя з іх сталі прыстойнымі людзьмі, агульнапаважанымі. Не думаю, што якраз з прычыны крытыкі ў „Ніве". Але напэўна цяжэй было ім змыць з сябе кляймо. Друкаванае слова калісьці значыла больш чым цяпер. Але якое права бралі на сябе рэдактары на гэткае ганьбаванне чалавека! Што напішаш пяром... Гэтак сёння не робіцца. Незаконна пісаць благое нават пра злачынцу, упамянуўшы ягонае прозвішча. Пакаранне міне, а жыць жа трэба будзе ўсім, — і ягонай сям'і, дзецям, ды найперш яму самому, якога пасадзілі ў турму дзеля рэсацыялізацыі. Каб вярнуўся да людзей, да грамадства і чалавечнасці.

Ну, я пра ўдары ніжэй пояса, як былы баксёр-аматар. Але калі пра чалавека не пішуць (або прынамсі пляткуюць), то лічы — ён ужо памёр, ды нават даўно. А ў нашай „Ніве" — усё пра нашых. І оды трапляюцца, і праклёны. Я, стары Вандал, з усіх сіл стаю за памяркоўнасць.

**Вандал Арлянскі**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 3. крываліенійнае перакрыццё, якое злучае сцены збудавання, 8. зацукраваны плод, 9. збудаванне для сена, 10. вострая прыправа, 11. марская жывёліна, якая не мяняе свайго месцазнаходжання, 13. станок для навострывання рэжучых інструментаў, 15. іспанская сцэнічная пастаноўка з музыкай, 16. дарадчы орган пры патрыярху, 20. кандытарскі выраб з міндальнага цеста, 22. Васіль, беларускі пісьменнік народжаны ў 1926 годзе ў Грабаўцы, 23. моцны спалох, 27. горад між Брэстам і Ковелем, 29. мастацкі стыль 16—18 ст.ст., 30. тэрытарыяльная адзінка ў Манголіі, 31. горад на верхняй Волзе, 32. глыбокая адтуліна, 33. горад і правінцыя на паўночным захадзе Аргенціны, 34. Імануіл, нямецкі філосаф (1724—1804).

**Вертыкальна:** 1. Абуабдула, персідскі паэт (860—941), 2. Адальберт, нямецкі пісьменнік (1781—1838), 4. Эрыка, бразільскі пісьменнік (1905—75), 5. Аліг'еры, італьянскі паэт (1265—1321), 6. шчыльная шаўковая тканіна, патыканая залатымі або сярэбранымі ніткамі, 7. піццё для жывёлы, 12. фундамент, 14. опера Х. Глюка, 16. глыбокі акоп у напрамку праціўніка, 17. графічны знак для запісу музыкі, 18. падпорка, 19. бацька Мафусаіла, 21. баян з фартэпіяннай клавіятурай, 24. ураган на захадзе Ціхага акіяна, 25. маскоўскі царкоўны раскольнік спалены па загаду цара Фёдара на зрубе (1620—82), 26. начное зборышча і разгул ведзьмаў, 27. у савецкім гербе, 28. гандлёвая палатка.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 44 нумара**

**Гарызантальна:** камода, медуза, Макаль, дула, каса, Фамальгаўт, морг, унты, Кадафі, трайня, Гавана.

**Вертыкальна:** какаду, дама, мель, завеса, кавалькада, Лафарг, каўтун, монстр, Тычына, каня, фіга.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

**Ніва**

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1998 r. upływa 5 marca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Відны

Роўна-постальны з пасталоў
Вырас, хоць стапа — невялікая.
Не відаць яго з-за сталоў,
То яго ў прэзідыум паклікалі.

**Вандал Арлянскі**

## Думкі ў час мігрэні

* Хоча чалавеку нагадзіць на галаву, хаця яму і да пят не дасягае.

* Ніхто не скажа, што яму грошай хапае.

* Мяжу ў галаве цяжэй перасячы, чым дзяржаўную.

* Аб сексе спачатку марым, потым ім займаемся, гаворым аб ім і ўрэшце — толькі ўспамінаем.

* Скупасць — маці багацця.

* Не даказвай, якой паганай была сістэма, якая адышла, гавары якой добрай будзе тая, якую ствараеш сёння.

**Пётр Байко**



*Мал. Леаніда Разладава*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Гутараць дзве жанчыны:
— Дзе працуе твой муж?
— У піваварні.
— І як яму там падабаецца?
— Не ведаю: ужо тры месяцы не паказваецца дома.

* * *

Гутараць два сябры:
— Мая жонка штовечар прыходзіць у піўную...
— І ты ёй на гэта дазваляеш?!
— Вядома! Калі б яна не прыходзіла, дык не было б каму адводзіць мяне дадому.

* * *

— Уяві сабе: прыходжу дадому і засцігаю там жонку з каханкам; вочы ім блішчаць. Не распранаючыся дабягаю да халадзільніка, адкрываю, і ўсё мне стала ясным: выпілі маё піва!

* * *

— Гэты загадчык бара зарабіў вялікі маёнтак.
— На піве?
— Не: на вадзе, якую да яго даліваў.

* * *

— Чаму ты сёння такі задуманы?
— Стараюся прыпомніць, што мне жонка загадала: ці выпіць адно піва і вярнуцца а дзесятай дадому, ці выпіць дзесяць і вярнуцца а першай...

* * *

Муж вяртаецца на досвітку дадому, ціхенька распранаецца і тайком лягае ў ложак побач жонкі. Тая аднак будзіцца, уключае святло, бачыць мужа голага і здзіўляецца:
— То сёння ўжо нават і вопратку прапіў?

* * *

Прахожы да паліцыянта:
— Вы, спадар, налажылі шапку казырком назад.
— Абыдзецца: зараз буду вяртацца.

* * *

На скрыжаванні вуліц стаіць самаход. Святло што і раз мяняецца, а машына не кранае з месца. Да жанчыны за рулём падыходзіць паліцыянт і пытае:
— Ці вы чакаеце нейкі іншы колер?

* * *

Рэжысёр да акцёра:
— Вы, сябра, павінны ўнесці больш жыцця ў гэтую сцэну смерці.

## Як баба з дзедам кампраміс шукалі

З таго часу, як дзед Ягор пачаў усё часцей хварэць і ўлада ў доме перайшла ў рукі бабы Тэклі, ён гадзінамі праседжваў ля тэлевізара. Болей за ўсё дзед цікавіўся палітычнымі перадачамі, якія баба Тэкля цярпець не магла. Аднойчы, калі баба прапанавала дзеду паабедаць, той раптам загадаў наліць яму гарэлкі.

— З якой такой нагоды? — здзівілася баба.

— Як цывілізаваны грамадзянін, маю поўнае права трошкі прамачыць гарляк перад абедам, — заявіў дзед.

— Няма ў мяне, — сказала баба.

— У такім разе аб'яўляю табе імпічмент! — выдыхнуў дзед Ягор. Ён быў упэўнены, што гэтае складанае слова напалохае старую.

— Так ужо адразу імпічмент! — абурылася Тэкля. — Можа, знойдзем які кампраміс?

Дзед Ягор ажно залыпаў вачамі:

— А ты адкуль ведаеш такія мудрагелістыя слоўцы?!

— Я ж не глухая, — мовіла баба Тэкля ў адказ.

— Ніякіх кампрамісаў, пакуль на стале не будзе пляшкі — стымулу для мірных перамоў, — заўпарціўся дзед.

— Калі не згодны, то пашкадуеш, — разззлавалася баба. — Во пайду да студні і на пятачку Незалежнасці „далажу" бабскаму электарату кампрамат на цябе.

— Які ж? — насцярожыўся дзед.

— Знайду...

— Гы-гы! — развесяліўся дзед.

Баба Тэкля тым часам працягвала:

— Скажу аднавяскоўцам, што ты рэкецір, дамагаешся апошняй бутэлькі, якую я прыхавала.

— Хлусня! — закрычаў дзед. — У цябе некалькі бутэлек! А за хлусню я проста паразганяю гэты шкодны бабскі парламент.

— Якім чынам?

— З дапамогаю ахоўніка парадку: Шарыка — з ланцуга!..

— Не! Не зробіш такога, іначай атрымаецца дыктатура і наступ на дэмакратычныя свабоды, — строга мовіла баба.

— А да фені мне вашыя прынцыпы, калі ў хаце парадку няма, жонка не падпарадкоўваецца мужу, чарку кульнуць не дазваляе...

— Добра, — памякчэла баба Тэкля, — давай вырашаць праблему канстытуцыйна. Звернемся ў сельсавет — хай вынесуць вердыкт, ці правільна я зрабіла.

— Ты звяртайся хоць у ААН, а я ў сваёй хаце гаспадар, і тут ніхто мне не дарадчык, — цвёрда адказаў дзед Ягор.

— Добра, здаюся, — заўсміхалася баба Тэкля, — давай разам пашукаем гэты кампраміс, бо я зусім забылася, куды я яго схавала...

— Каго?

— Не каго, а што... Пляшачку!

Як высветлілася праз хвілін колькі, бутэлька была схавана ў бочцы з камбікармамі.

Баба Тэкля за першай чаркай разгаварылася:

— Слухай, Ягор, а мо нам гэты абрыдлы тэлевізар зусім болей не ўключаць?..

Стары трошкі памаўчаў, падумаў і мовіў:

— А што ўвечары рабіць?

— Ты, як раней, на „тальянцы" сыграеш, я спяю. Маладосць успомнім. Потым Богу памолімся.

— Згодны, — адказаў дзед, — але каб умацаваць гэты кансенсус — налі мне яшчэ кілішак...

— Вось гэта сапраўды пераканаўчы аргумент! — узрадавалася старая.

**Віталь Савіцкі**

## Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Чытала я, чытала тваю рубрыку, а нарэшце і сама вырашыла папрасіць у цябе парады.

З гэтым хлопцам мы працавалі разам у адной культурнай установе. Нават адразу ён мне асабліва не падабаўся, а да таго, казалі, недзе на Шлёнску жыла яго жонка з дачкой. Ці ж варта было звязвацца з ім, калі я чула, што ён штораз ды і з'ездзіць на Шлёнск... Значыцца, з жонкай сувязяў не парываў.

Але пасля быў адзін вечар... Цудоўны вечар... А было гэта ў яго на імянінах. Колькі было харошых дзяўчат, хлопцаў! Але тыя дзяўчаты круціліся вакол яго аднаго, страшнага такога, барадатага... Што яны ў ім знайшлі, не магла я ўразумець.

А пасля і я не агледзелася, як апынулася ў яго пяшчотных абдымках. Даражэнькае Сэрцайка! Мне, на дзіва, было прыемна. Я не магла зразумець, што са мной дзеецца. Усё ў сярэдзіне трапятала, калі ён шаптаў мне на вуха чуллівыя слоўцы. Яго гарачае дыханне бышцам аблівала мяне варам.

Госці пачалі памалу разыходзіцца, іх заставалася ўсё менш і неяк так выйшла, што засталіся толькі мы ўдваіх з гаспадаром. Што ж гэта была за ноч! Цяпер і я зразумела, чаго тыя бабы ліпнуць да яго. Неверагодна палымяны быў, раскошны. Умеў раскахаць дзяўчыну да белай гарачкі.

Ад гэтага часу мы пачалі хадзіць. Усё разам і разам — усюды і заўсёды. Усе сталі лічыць нас парай. На першы погляд сапраўды мы былі неразлучныя. Толькі я ведала, што часам у яго то пераначуе нейкая вандроўная актрыса, то дні тры пасядзіць нейкая мастачка...

Хаця на душы скраблі кошкі, я не падавала віду, што мне балюча. Калі нейкая сяброўка гаварыла мне, што бачыла яго з нейкай дзяўчынай, я ўсміхалася: у яго, маўляў, шмат сяброваk.

Калі ён, як шалёны, закахаўся ў наступную дзяўчыну, я хадзіла разам з імі ў госці, у кавярню. Святая тройца — так і называлі нас сябры. Ну, не магла я адарвацца ад яго... Цяпер, калі ў мяне пытаціся, што я раблю ў гэтай кампаніі, я адказвала: а я ў якасці сяброўкі, або: пільную свайго хлопца, каб не ўцёк ад мяне.

Але ён закахаўся ў тую дзяўчыну не на жарты. Вечна лазіў за ёю, упіваўся, прасіў яе, пакуль і яна яго не пакахала. Гэты раман працягваўся некалькі гадоў, а я не патрапіла адарвацца ад хлопца.

Я мусіла быць прынамсі блізка, бачыць яго, глядзець яму ў вочы, дакранацца да яго рукі, бо, дзякуй Богу, на гэта дазваляла яго дзяўчына. А пасля неспадзявана яна выйшла замуж. Прачытала ў газеце нейкую замежную аб'яву і напісала ліст, на які прыйшоў адказ. Так яго дзяўчына апынулася на Захадзе, а я ізноў хадзіла за ім, як цень.

Пасля былі ў яго розныя дробныя „справы", але я заўсёды была побач. Прызнаюся, часамі я бывала ў яго, але ўсё гэта было ўжо не тое. Нават пасля інтымных сустрэч было мне сумна і горка, бо я адчувала, што яго сэрца было далёка ад мяне.

І так цягнецца ўжо гэта гісторыя больш дзесяці гадоў, а я не магу з яе вылезці.

Сама ўжо не ведаю, што зрабіць. Як выйсці з гэтага маразму? Іншыя хлопцы, дадам, не цікавяць мяне ніколечкі. Не цягне мяне да іх.

Мо ты нешта прыдумаеш, каб мне палягчэла на душы?

**Марта**

Марта! А што ты тут прыдумаеш, калі ты ўліпла... Ты ж ведала, што гэты чалавек жанаты, а да таго любіць цягацца. Навошта ж было пачынаць?!

Я думаю, што ты паводзіш сябе смешна: ён ходзіць з іншай, а ты — за імі. Угаманіся ты нарэшце! Выедзь куды-небудзь, забудзься пра яго. Час залечвае ўсе раны. Мо і табе ўдасца. Уцякай ад яго!

**Сэрцайка**